● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

11 мая 1996 г. субота, № 115 (22918)



# ЗВЯЗДА

**Пярэдадзень пераможнага майскага свята быў як ніколі насычаны мітынгамі і шэсцямі. У сакавіку-красавіку, ды яшчэ і 1 мая, народ хваляваўся, ішоў на вуліцы і плошчы, каб засведчыць тыя ці іншыя палітычныя перакананні. Не сядзелі людзі дома і 9 мая. Вядома ж, эпіцэнтрам урачыстасцей стала плошча Перамогі ў горадзе-героі Мінску.**



Прыемна ўразіла тое, што на плошчы Перамогі сёлета сабралася вельмі шмат людзей. Так яно і павінна, мусіць, быць. Жорсткі і непаслухмяны лёс усё больш актыўна выключае з нашых радоў моладзь саракавых — маладых і юных франтавікоў і партызан. Свята ж павінна застацца на стагоддзі. Як сімвал міру, дабрыні, чалавечнасці. Як сімвал самаахвярнасці і мужнасці.

Абыходзячы плошчу, шукаў вачыма знаёмыя твары. Пашкадаваў, што не дамовіўся папярэдне аб канкрэтным месцы сустрэчы. Ужо потым, праз гадзіну-другую пасля ўрачыстасцей, абзваніў знаёмых удзельнікаў вайны, павіншаваў

## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ — НАША РАДАСЦЬ, БОЛЬ І ПАМЯЦЬ





Фотарэпартаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

са святам. Дазваніўся і да чалавека, якога проста на руках павінны прыносіць на плошчу Перамогі. А як высветлілася — віншаванне ад «Звязды» аказалася першым. Забыліся? Няўжо забыліся на легендарнага Георгія Уладзіміравіча Заборскага... Гэта ж ён — аўтар абеліска, які ўпрыгожвае плошчу, які стаіць перад вачыма кожнага беларуса, ля якога фатаграфуюцца перад вяселлем маладыя, які не абмінаюць госці сталіцы. Ведалі б людзі, што задуманы гэты абеліск быў ажно ў сярэдзіне 1942 года. Заборскі тады ляжаў у шпіталі ў Троіцку, на Урале. Дактары, раненыя пасмейваліся з яго. А ён маляваў, чарціў на нейкіх шматках паперы. Чуткі пра дзіўнаватага беларуса дайшлі да небезвядомага Патолічава (тады ён узначальваў там партызанскую арганізацыю). Патолічаў прыехаў у шпіталь, пазнаёміўся з дзіваком. І папрасіў стварыць усе ўмовы, каб Заборскі мог працаваць, знайшоў для салдата выдатную паперу. Так вось нараджаўся абеліск... І так нараджалася, гартавалася вера ў перамогу.

Ці жывуць ветэраны з гэтай верай сёння? Пра гэта думалася і ў час, калі на плошчы віншаваў ветэранаў са святам Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Не выпадкова значную частку свайго выступлення ён прысвяціў сацыяльным пытанням. Як і абсалютная большасць насельніцтва, ветэраны перажываюць зараз нялёгкі час. Пенсія дае вельмі сціплыя сродкі для існавання. Зберажэнні? Яны даўно з'едзены інфляцыяй. Адзін толькі ўспамін пра іх выклікае раздражненне і абурэнне, выказаныя часам зусім не па адрасу. На плошчы, дарэчы, Прэзідэнт сказаў і пра падпісаны ім указ аб кампенсацыі грашовых укладаў. У першую чаргу кампенсацыю атрымаюць ветэраны, інваліды Вялікай Айчыннай вайны. Мо хоць гэтым сплацім частку даўгоў франтавікам, партызанам, падпольшчыкам?

Сёлетнія ўрачыстасці на плошчы Перамогі прайшлі даволі хутка. Акрамя Прэзідэнта, ніхто болей і не выступаў. У гэтым, пэўна, ёсць свой сэнс. Навошта лішнія словы? Ветэранам патрэбны і словы, і дзеянні, калі можна так сказаць, па сутнасці. І вось напоўніць жыццё сутнасцю — гэта клопат, задача нумар адзін. Задача бліжэйшага заўтра. Інакай... Інакай так і застанёмся пакаленнем, не сплаціўшым даўгі. Як, з якім сумленнем будзем тады жыць? Ці хопіць тады ў нас смеласці прыйсці на плошчу? Ці прывядзём мы тады да абеліска сваіх дзяцей, сваіх унукаў? Што раскажам наступнікам? Зразумела ж, пра герояў і подзвігі мы ведаем шмат, на тысячах старонак гэта занатавана. А вось што скажам пра тое, як свой век дажывалі героі і радавыя ўдзельнікі, сціплыя і мужныя?

Раней свята Перамогі выходзіла за межы аднаго дня. Былі ўсялякія акцыі, экспедыцыі, прабегі, месячнікі. Да ветэранаў прыходзілі школьнікі, моладзь. І не толькі каб запісаць успаміны. Але ж і дапамагалі, шчыравалі, наколькі могуць і ўмеюць рабіць гэта дзеці. Сёння наўрад ці знойдзеш дзе школу, у якой вучыліся б тыя цімураўцы. Камусьці ў эпоху капіталізацыі духоўнасці дзіўнымі і смешнымі, пэўна, пададуцца развагі пра дзіцячую дапамогу нямоглым сёння старым. Але ж якраз да гэтай маралі падштурхоўвае рэчаіснасць. Добра, калі ўсё добра. Калі ў семдзесят з гакам можа сівы франтавік ускапаць градку, засадзіць бульбай свае соткі. А калі штодня нагадваюць аб сабе паўвекавой даўнасці раны, калі і ўзрост налажыў жорсткі свой адбітак — што тады? Тады, мусіць, і да свята не тая ахвота. Як, прыкладам, і ў знаёмага мне абаронцы Брэсцкай крэпасці. У адказ на віншавальны званок ветэран-пакутнік адно толькі невясёлым настроем і падзяліўся. Несвяточным. Хаця ж і свята было. 9 мая, калі меркаваць па моры-акіяне кветак на плошчы, ля абеліска, па парадна-рашучым маршы аркестра Міністэрства абароны, па сцягах трох Беларускіх і аднаго Прыбалтыйскага франтоў, якія неслі ў калоне да плошчы, свята ўсё ж было. Прысутнічала ў нашым жыцці. Хаця б і адзін дзень жыло...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

◆

Пасля мітынгу на сталічнай Плошчы Перамогі асноўныя ўрачыстасці перамясціліся на Курган Славы. Але па дарозе ўрадавы картэж зрабіў прыпынак на могілках па Маскоўскай шашы. Тут Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, прэм'ер-міністр рэспублікі Міхаіл Чыгір і іншыя афіцыйныя асобы ўсклалі кветкі да месца пахавання воінаў, якія загінулі за вызваленне Мінска ў 1941—1944 гадах, і на магілу Пятра Машэрава. У час наведвання могілак Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з роднымі і блізкімі Пятра Міронавіча.

Затым кіраўнікі дзяржавы накіраваліся да Кургана Славы — сімвала вялікай Перамогі, дзе адбылося ўскладанне кветкавых гірляндаў. У гэтай цырымоніі прынялі ўдзел Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, Старшыня Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір, міністр абароны Леанід Мальцаў, а таксама іншыя вядомыя дзяржаўныя і палітычныя дзеячы. Пад гукі ваеннага аркестра перад Курганам Славы ўрачыстым маршам прайшла рота ганаровай варты. Кіраўнік дзяржавы яшчэ раз павіншаваў усіх прысутных з Днём Перамогі і пажадаў ім моцнага здароўя і веснавога настрою.

**БЕЛТА.**

## ВЕТЭРАНЫ-ПЕРАМОЖЦЫ — ГОРДАСЦЬ НАЦЫІ

**Перамога... Агульная для ўсіх, да якой кожны ветэран ішоў сваім нялёгкім шляхам. Перамога, дзеля якой змагалася ўся краіна і кожны яе грамадзянін паасобку. Дзень, калі мы нізка схіляем галаву перад пераможцамі.**

8 мая да Цэнтральнага Дома афіцэраў, у якім павінен быў адбыцца ўрачысты сход, прысвечаны 51-й гадавіне разгрому гітлераўскай Германіі ў Вялікай Айчыннай вайне, ветэраны пачалі прыходзіць задоўга да пачатку гэтага мерапрыемства. Пасівелыя людзі падыходзілі адзін да аднаго, смяяліся, непрыметна выціралі слёзы, успамінаючы свае франтавыя будні і таварышаў, якія загінулі.

Ім, салдатам і афіцэрам другой сусветнай вайны, і былі выказаны ў першую чаргу словы вялікай падзякі. «Вы, ветэраны-пераможцы, - наша нацыянальная гордасць, наша багацце, - сказаў, звяртаючыся да прысутных, Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. — Якая б пераацэнка каштоўнасцей ні адбывалася ў грамадстве з цягам часу, як бы ні змяняліся яго ідэалы і асновы, Перамога, здабытая вамі, вашы мужнасць, гераізм і адвага былі і будуць ушанаваны ў народзе, застануцца каштоўнасцямі сталымі, вечнымі».

Прэзідэнт падкрэсліў, што ў Беларусі ніколі не будзе забыты подзвіг савецкага народа, які атрымаў 51 год таму вялікую Перамогу ў адной з самых кровапралітных войнаў. У святочна ўпрыгожанай зале Цэнтральнага Дома афіцэраў разам з Дзяржаўным сцягам рэспублікі вывешаны дублікат Сцяга Перамогі і Дзяржаўны сцяг СССР, якія, згодна з указам Прэзідэнта, будуць цяпер выкарыстоўвацца ў дні дзяржаўных святаў Рэспублікі Беларусь. Пад іх пунсовымі палотнішчамі на франтах Вялікай Айчыннай вайны пралівалі кроў 1 мільён 300 тысяч грамадзян рэспублікі, 374 тысячы патрыётаў дзейнічалі ў партызанскіх атрадах, больш за 70 тысяч беларусаў змагаліся з ворагам у глыбокім падполлі.

Звяртаючыся да ветэранаў, Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Мы вярнулі вам дзяржаўны сцяг краіны, за якую вы ваявалі. Мы вярнулі вам дружбу і саюз з рускім народам і Расіяй, з якой у нас агульны шматвяковы корань. Галоўнае — мы вам вярнулі памяць і пачуццё чалавечай гордасці за пражытыя вамі гады. Даруйце нам, что мы пакуль не змаглі вярнуць вам вашу і нашу агульную Айчыну ў шырокім і глыбокім сэнсе гэтага слова. Але я перакананы, што гэта нам пад сілу. Мы гэта зробім не таму, што ў кагосьці страшэнная настальгія па тых часах, па той дзяржаве, або, як хтоосьці яе называе, імперыі. Не, гэта не толькі настальгія, хоць я нічога дрэннага ў гэтым не бачу. Гэта залог нашага працвітання і дабрабыту. Гора будзе тым народам, якія жылі некалі ў такой магутнай савецкай дзяржаве, калі мы не адумаемся ў бліжэйшыя год-два і не зробім рашучыя захады ў накірунку яднання гэтых народаў».

Беларусь, якая першай прыняла на сябе масіраваны ўдар фашысцкіх захопнікаў, страціла ў гады вайны больш за палову свайго нацыянальнага багацця. За тры гады акупацыі ворагам было знішчана 209 гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, 9200 вёсак, больш за 600 з іх — разам з людзьмі. Пасля перамогі рэспубліка недалічылася кожнага чацвёртага свайго жыхара.

«Наш народ нацярпеўся ад вайны. І таму мы не можам спакойна назіраць за прыбліжэннем гэтага страшнага монстра да граніцы нашай сінявокай Беларусі. Хопіць войнаў! А каб не было вайны, трэба забяспечыць бяспеку дзяржавы на належным узроўні задоўга да магчыма страшных падзей. У сувязі з гэтым мы, чаго б гэта нам ні каштавала, павінны берагчы і нашу армію, нашы Узброеныя Сілы», — сказаў Прэзідэнт.

Гаворачы аб планетарнай небяспецы ядзернага патэнцыялу, што ўжо знаходзіцца ў еўрапейскіх краінах, і які будзе размяшчацца паблізу граніц Беларусі, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: «Беларусь — мірная, дружалюбная і адкрытая для ўсіх дзяржава. Але забяспечваць сваю бяспеку мы будзем мерамі, адэкватнымі тым, што спрабуюць выкарыстоўваць іншыя дзяржавы».

Ветэранаў, якія сабраліся ў гэты дзень у Доме афіцэраў, цёпла павіншаваў старшыня Мінскага гарвыканкома Уладзімір Ярмошын.

Пасля ўрачыстых выступленняў у Доме афіцэраў пачаўся святочны канцэрт.

**Ларыса ЛАЗАР,**
**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**БЕЛТА.**

## УКАЗ

**Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**
**№ 168**

### АБ КАМПЕНСАЦЫІ ЎКЛАДАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА

У мэтах кампенсацыі грамадзянам Рэспублікі Беларусь страт ад абясцэнення ўкладаў **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што з 1 мая 1996 г.:

1.1. Права на кампенсацыю ўкладаў у Акцыянерным ашчадным банку «Беларусбанк» (за выключэннем укладаў, якія захоўваюцца на аб'яднаных і кампенсацыйных рахунках)* прадастаўляецца ветэранам вайны, пералічаным у артыкуле 2 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 г. «Аб ветэранах»;

1.2. Кампенсацыя ўкладаў праводзіцца шляхам павелічэння астатку сродкаў на рахунках у Ашчадным банку па стану на 1 студзеня 1992 г. у 1000 разоў у парадку, устаноўленым Акцыянерным ашчадным банкам «Беларусбанк» па ўзгадненню з Нацыянальным банкам і Міністэрствам фінансаў;

1.3. Налічэнне кампенсацыі ўкладаў праводзіцца на падставе:

1.3.1. Заявы грамадзяніна;

1.3.2. Пасведчання, якое пацвярджае статус ветэрана вайны (для ветэранаў вайны і наследнікаў іх укладаў), а таксама дакументаў, што пацвярджаюць атрыманне ў спадчыну ўкладу (для наследнікаў укладаў);

1.3.3. Даведкі аб наяўнасці на 1 студзеня 1992 г. укладу ў Ашчадным банку.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь з 1997 года прадугледжваць у праектах бюджэту Рэспублікі Беларусь выдаткі на пагашэнне запазычанасці па крэдыту Нацыянальнага банка, выкарыстанаму для кампенсацыі ўкладаў.

3. Нацыянальнаму банку адкрыць на 1996-1997 гады Акцыянернаму ашчаднаму банку «Беларусбанк» на падставе адпаведнага дагавора беспрацэнтную крэдытную лінію для кампенсацыі ўкладаў на суму да 500 млрд. рублёў тэрмінам на 10 гадоў са штомесячным выдзяленнем неабходных сродкаў. Пагашэнне запазычанасці па гэтаму крэдыту ажыццяўляецца пачынаючы з 1 студзеня 1997 г. роўнымі часткамі за кошт сродкаў, вызначаных у пункце 2 гэтага Указа.

4. Акцыянернаму ашчаднаму банку «Беларусбанк»:

4.1. У двухтыднёвы тэрмін устанавіць па ўзгадненню з Нацыянальным банкам і Міністэрствам фінансаў парадак кампенсацыі ўкладаў, аналагічны парадку налічэння індэксацыі спецрублёвых рахункаў па чэках Знешпасылгандлю ва ўстановах Ашчаднага банка;

4.2. Вызначыць парадак пераходу права на кампенсацыю ўкладу да наследнікаў укладу ветэрана вайны;

4.3. Ажыццявіць у 1996-1997 гадах кампенсацыю ўкладаў у адпаведнасці з пунктам 1 гэтага Указа.

5. Нацыянальнаму банку, Акцыянернаму ашчаднаму банку «Беларусбанк» забяспечыць кантроль за мэтавым выкарыстаннем сродкаў, выдзеленых для кампенсацыі ўкладаў.

6. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

7. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

** Далей — кампенсацыя ўкладаў.*

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

8 мая 1996 г. г.Мінск.

# СПІКЕР У ГАСЦЯХ У МІНСКІХ АЎТАМАБІЛЕБУДАЎНІКОЎ

**8 мая Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі наведаў Мінскі аўтамабільны завод. Але перш, чым пазнаёміцца з вытворчасцю гіганта беларускага машынабудавання, кіраўнік парламента завітаў у Палац культуры МАЗа, дзе яго ўжо з нецярплівасцю чакалі ветэраны прадпрыемства.**

Справа ў тым, што сёлета менавіта напярэдадні Дня Перамогі споўнілася 40 гадоў клубу «Ветэран» Мінскага аўтамабільнага завода. З гэтай нагоды тут адбыліся юбілейныя ўрачыстасці, а спікер на іх аказаўся жаданым госцем. Тым больш, што прыехаў ён да ветэранаў не з пустымі рукамі: ён уручыў клубу Ганаровую грамату Прэзідыума Вярхоўнага Савета і ў дадатак сказаў нямала цёплых слоў. «Цяжка пераацаніць тую ролю, якую сёння адыгрывае завод у станаўленні нашай рэспублікі: без МАЗа краіну нават нельга ўявіць. Вы і сёння, нягледзячы на тое, што знаходзіцеся на заслужаным адпачынку, не парываецца з заводам сувязі. Гэта вам трэба дзякаваць, што не парываецца сувязь розных пакаленняў рабочых на МАЗе», — заўважыў Сямён Шарэцкі.

Дарэчы, павітаць ветэранаў у сераду таксама прыйшлі генеральны дырэктар аўтазавода сп. Гурыновіч, былы кіраўнік МАЗа сп. Лаўрыновіч, старшыня рэспубліканскага Савета ветэранаў вайны і працы сп. Новікаў, прадстаўнікі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Чырвонага Крыжа, арганізацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў, школьнікі.

Візіт на МАЗ для кіраўніка беларускага парламента быў азнаямляльным, бо не адбылося ніякіх сустрэч з рабочымі, як гэта звычайна бывае падчас наведвання прадпрыемстваў высокімі асобамі краіны. Хаця праблемы аўтазаводчан вядомыя і без гэтых сустрэч: у прадпрыемства катастрафічна не хапае фінансавых сродкаў, графік работы пастаянна ламаецца, а рабочыя часта застаюцца без працы. Нават у сераду работа ў гэтым «горадзе ў горадзе», якім з'яўляецца МАЗ, ледзьве варушылася. Безумоўна, калі кіраўніцтва МАЗа запрашала сп. Шарэцкага, то спадзявалася, надзённыя праблемы атрымаюць пэўны рэзананс у парламенцкіх сценах. Гэта асабліва падкрэслівалася, калі дэлегацыя пасля наведвання галоўнага канвеера па зборцы аўтамабіляў спынілася каля ўзораў тэхнікі, якія сёння выпускаюцца ці асвойваюцца прадпрыемствам. А цікавых распрацовак у аўтазаводчан, трэба сказаць, шмат. Яны, напрыклад, на базе шасі МАЗа выпускаюць аўтацягнікі-самазвалы, аўтамабілі для патрэб арміі, дарожнай міліцыі, пажарнай службы, для камунальных службаў, якія займаюцца прыбіраннем горада. Асвоілі выпуск некалькіх відаў фургонаў для шпаркіх «Газеляў» Горкаўскага аўтамабільнага завода. На ўсю гэтую тэхніку ёсць попыт не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Тым не менш, для станаўлення вытворчасці патрэбны немалыя інвестыцыі, з якімі якраз і існуе вострая праблема.



Не ўсё добра і на аўтобуснай вытворчасці. Нагадаю, што сумесна з «Неапланам» МАЗ асвоіў вытворчасць некалькіх мадэляў аўтобусаў як для гарадскіх маршрутаў, так і для міжгародніх. Але цана аўтобусаў часта застаецца недасягальнай для патэнцыяльных пакупнікоў, таму на МАЗе працуюць у першую чаргу над праблемай змяншэння сабекошту аўтобусаў. Але ў той жа час і з аптымізмам глядзяць у будучыню: пашыраюць вытворчасць, плануючы ўвесці ў строй у трэцім квартале бягучага года новыя магутнасці. У бліжэйшых планах мінскіх аўтобусабудаўнікоў — наладзіць выпуск не менш як ста штук аўтобусаў у год.

Закончылася наведванне МАЗа удзелам у пашыранай нарадзе кіраўнікоў аўтамабілебудаўнічай галіны рэспублікі. Менавіта там найбольш канкрэтна і былі сфармуляваны вострыя праблемы.

Каменціруючы для журналістаў вынікі свайго візіту на завод, Сямён Шарэцкі сказаў: «Нават калі я яшчэ не быў дэпутатам, кіраўніком парламента, то лічыў неабходным наведваць вытворчасць, каб быць больш блізкім да надзённых патрэб як людзей, так і прадпрыемства ў цэлым. Таму і гэтая паездка, безумоўна, дасць свой плён».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### *Артур ВОЛЬСКІ:*

## «ГАЛОЎНАЕ БЫЛО ДЛЯ НАС УСКЛАСЦІ КВЕТКІ, УШАНАВАЦЬ ПАМЯЦЬ...»

***Сярод падзей святочнага дня было і такое — шэсце калоны ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны пад бел-чырвона-белымі сцягамі.***

***З просьбай пракаменціраваць тое, што здарылася пасля, «Звязда» звярнулася да старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання «Ветэран», вядомага пісьменніка, драматурга Артура Вольскага.***

**— Артур Вітальевіч, віншуючы Вас са святам Перамогі, пытаюся, што здарылася, калі на плошчу 9 мая рушыла сабраная вамі калона?**

— А нічога і не здарылася. Мы сабраліся невялікай групай ветэранаў, якія прытрымліваюцца больш дэмакратычных поглядаў. Падрыхтавалі вянок. Людзі прыйшлі з кветкамі. Дамовіліся з міліцыяй, што будзем рухацца ў накірунку да абеліска. Нас папрасілі ісці па тратуары, што ветэраны і зрабілі. Ніякіх лозунгаў, ніякага парушэння грамадскага парадку не было...

**— Але ж сродкі масавай інфармацыі расказалі аб гэтым як аб падзеі, ініцыіраванай БНФ...**

— Ужо пасля, як выйшлі з падземнага перахода, прафесар Мікола Савіцкі выцягнуў бела-чырвона-белы сцяг. Адразу ж наляцелі амонаўцы, як быццам рыхтаваліся да сустрэчы з намі. Вядома ж, мы баранілі прафесара. Праўда, хутка ўсё супакоілася. Мы ўсклалі кветкі і вянок. Вось гэта і было галоўным для нас — ускласці кветкі, ушанаваць памяць.

У большай ступені ўжо пасля нас атакавалі журналісты. І, даючы кароткія інтэрв'ю самым розным сродкам масавай інфармацыі, я гаварыў і гавару гэта зараз, што ніколі ў вайну не забываўся пра сваю Айчыну, пра Беларусь і яе пакуты.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»*

## ЛЮДЗЕЙ НЕПАКОІЦЬ ГАЛОЎНАЕ — НЯМА ГРОШАЙ. ЯК ЖЫЦЬ?

**«Гарачы тэлефон» «Звязды» — 68-28-72 — не маўчаў і напярэдадні Дня Перамогі. Людзі званілі, расказвалі тое, што сёння робіцца па ўсёй краіне. Відаць, назоўнікі і дзеясловы «нявыплата», «затрымка зарплаты», «не выплацілі» — хутка стануць ці не найгалоўнейшымі нават у дзіцячым лексіконе.**

З Мінска пазваніў наш чытач Аляксандр Мікалаевіч Карасевіч. Рабочы. З завода шасцерняў. Апошні раз зарплату атрымліваў за люты. Астатнія грашовыя выплаты прапаноўвалі замяніць «прадуктовым пайком». Прывозілі на завод, у прыватнасці, алей. Але, як сведчыць Аляксандр Мікалаевіч, алей той і на выгляд, і на смак асаблівых сімпатый не выклікае.

Здзівіў найболей званок са Жлобіна. Наталля Аляксееўна Кавалёва расказала аб прыватнай будаўнічай фірме «Арбіта», дзе працуе яе муж. А зарплату жлобінскія прадпрымальнікі не выплачваюць з леташняга лістапада. Вось гэта бізнес, вось гэта рынак!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПАГАСІЦЬ ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ ПА ЗАРПЛАЦЕ ДА 20 МАЯ

**Аляксандр Лукашэнка накіраваў тэлеграму прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь, міністрам, кіраўнікам іншых цэнтральных органаў кіравання, старшыням аблвыканкомаў і Мінгарвыканкома, старшыні праўлення Нацыянальнага банка, старшыням праўленняў шэрага банкаў, кіраўнікам асобных аб'яднанняў і прадпрыемстваў.**

Стан спраў з выплатай заработнай платы, гаворыцца ў тэлеграме, сведчыць, што з боку кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый не прымаюцца вычарпальныя меры па яе своечасовай выплаце. Кабінет Міністраў, міністэрствы і ведамствы сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь і фінансуючымі банкамі аслабілі кантроль, не аказваюць своечасовай дапамогі суб'ектам гаспадарання. «Выкладзеныя недахопы выклікаюць апраўданыя скаргі і прэтэнзіі грамадзян. Звяртаю Вашу ўвагу на нізкую выканаўчую дысцыпліну, што выяўляецца ў невыкананні маіх указанняў па гэтаму пытанню».

Прэзідэнт даручыў пад асабістую адказнасць прыняць неабходныя меры па пагашэнню запазычанасці, у тым ліку за І квартал — да 20 мая 1996 г., і аб выкананні далажыць.

### ЗАГАД МІНІСТРА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 253

*7 мая 1996 г. г.Мінск*

**Аб звальненні ў запас военнаслужачых, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны службы, і аб чарговым прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную службу ў маі—ліпені 1996 года**

У мэтах выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 мая 1996 года № 165 **ЗАГАДВАЮ**:

1. Звольніць у запас з Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь салдат і сяржантаў, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны ваеннай службы.

2. Ажыццявіць ва ўстаноўленым парадку адпраўку з ваенных камісарыятаў у маі—ліпені 1996 года прызыўнікоў ва Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь і іншыя воінскія фарміраванні Рэспублікі Беларусь і арганізаваць прыём маладога папаўнення ва Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь.

3. Загад аб'явіць ва ўсіх ротах, батарэях і эскадрыллях.

**Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнант Л.МАЛЬЦАЎ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЗНОЙДЗЕНА ЦЕЛА ЖУРНАЛІСТКІ

У Грозным знойдзена цела журналісткі газеты «Возрождение» Ніны Яфімавай — пра гэта паведамілі ў прэс-службе часовага ўпраўлення МУС Расіі ў Чачні. Па словах прадстаўніка ўпраўлення, 6 мая Ніну Яфімаву гвалтоўна ўначы забралі з дому невядомыя. 9 мая цела карэспандэнткі газеты «Возрождение» было знойдзена з агнястрэльнымі раненнямі ў галаву. Абставіны смерці Яфімавай высвятляюцца.

### НАВОШТА ГАРБАЧОВУ СПАТРЭБІЛАСЯ АПЛЯВУХА?

Паведамленне пра напад у Валгаградзе на кандыдата ў прэзідэнты Расіі Міхаіла Гарбачова не адпавядае рэчаіснасці. Пра гэта паведамілі ва ўпраўленні ўнутраных спраў горада. Як сказаў дзяжурны па УУС, інфармацыя пра тое, што падчас перадвыбарнай паездкі па горадзе Гарбачоў атрымаў аплявуху, пасля праверкі аказалася «вуткай».

### ІНДЫЮ ЧАКАЮЦЬ БУЙНЫЯ ПЕРАМЕНЫ

Нядаўнія парламенцкія выбары абяцаюць гістарычную змену ўлады ў Індыі. Вынікі падліку галасоў сведчаць пра сакрушальнае паражэнне цяперашняга прэм'ера краіны Насімжа Рао — за гэту партыю прагаласавала найменшая колькасць выбаршчыкаў з часу абвяшчэння незалежнасці Індыі. Апазіцыйная партыя Мхараці Аджаната можа разлічваць на тое, што пасля выбараў яна стане самай буйной партыяй, прадстаўленай у парламенце. Камуністы і вышэйпамянёная партыя патрабуюць неадкладнай адстаўкі Рао.

### 8 ГАДОЎ ЗА СПРОБУ САМАГУБСТВА

Самае незвычайнае правапарушэнне ўчыніў жыхар кітайскай сталіцы, які вырашыў пакончыць з сабой на пекінскім вакзале. Выбуховае ўстройства, з дапамогай якога ён збіраўся гэта зрабіць, параніла яго і не прынесла ніякай шкоды іншым людзям. Тым не менш, суд прыгаварыў яго да 8 гадоў пазбаўлення волі.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Плата за тэлефон, якой бы яна вялікай ні аказалася, заўсёды ўносіцца. Толькі адзін з камерцыйных банкаў абурыўся гіганцкімі сумамі за тэлефонныя размовы і звярнуўся па тлумачэнні. І, як выявілася, грошы спрабаваў атрымаць не «Цэнтральны тэлефонны вузел», а звычайныя аферысты. Аказалася, што фальшывыя «плацежкі» былі прад'яўлены прыкладна сотні камерцыйных арганізацый. Аператыўнікі затрымалі двух членаў злачыннай групы, калі тыя спрабавалі зняць з рахунку тры мільярды рублёў. Зараз міліцыя ў Маскве спрабуе ўстанавіць усіх падманутых, каб вярнуць ім грошы.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

*Вось як пажартаваў над кіяскёркай адзін курэц з Сухога Лога.*

*Купіўшы пачак «Бонда», ён адкрыў яго і на вачах у прадаўшчыцы дастаў з пачка пяцідзесяцітысячную купюру. На наступны дзень ён зноў прыйшоў па цыгарэты і «знайшоў» у пачку 10 тысяч рублёў. Як толькі пакупнік адышоў, кіяскёрка кінулася распячатваць пачкі «Бонда» адну за адной. Перытрусіла ўсе цыгарэты, але не знайшла нават пакамечанага рубля.*

**ЕАН.**

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

## З ДЭЛІ ПЕРАДАЕ КАРЭСПАНДЭНТ ІТАР-ТАСС Леанід КОТАЎ

КАЗЯРОГУ давядзецца ўпэўніцца ў прарэхах у сваім бюджэце. Гэта непрыемнае адкрыццё прымусіць вас з галавой акунуцца ў справы і прывесці іх у нармальны стан. Вынікі кіпучай дзейнасці не прымусяць сябе чакаць. На вашу долю выпадзе фінансавы поспех, прэміі і вялікія дэвідэнды, якія астролаг раіць выкарыстаць на набыццё нерухомасці.

Зоркі абяцаюць ВАДАЛЕЮ прасоўванне па службе і павышэнне зарплаты. Тыя, хто на часовай працы, пяройдуць на сталую. Жыццё стане весялейшым, калі ў бягучых клопатах на дапамогу вам прыйдуць родныя і верныя сябры. З'явіцца час і для падарожжаў разам з сям'ёй. А хто яе нядаўна стварыў, будзе цешыцца хатняй утульнасцю і ўвагай блізкіх.

РЫБАМ давядзецца набыць цвёрдасць, неабходную ў бітве за свае кроўныя інтарэсы. Не слухайце чужых парад і даверайце ўласнай інтуіцыі, якая, як ніць Арыядны, прывядзе вас да мэты. Тэрміновая праца, аднак, прымусіць адкласці падарожжа, якое намячалася. Чакаюцца сустрэчы з чалавекам, якім былі захоплены шмат гадоў таму. Давядзецца трохі расчуліцца і ўспомніць былое.

АВЕНЫ могуць праводзіць любыя фінансавыя аперацыі, якія будуць паспяховымі на гэтым тыдні. Тым, хто носіць пагоны, трэба рыхтавацца да пераводу на новае месца службы. Сямейным давядзецца прыкласці намаганне і адбіць спробы змяніць вас убок. Барацьба з самім сабой будзе цяжкай, але родныя потым узнагародзяць вас за праяўленую цвёрдасць.

У ЦЯЛЬЦА ўсё будзе валіцца з рук, але не спяшайцеся панікаваць. Гэта прымусіць вас заняцца чымсьці іншым, парваць з папярэднімі справамі, адным словам, пачаць новае цікавае жыццё. Астролаг раіць не кідацца грашамі і не пазычаць. У канцы тыдня ўвесь ваш час зоймуць хатнія справы і клопаты пра блізкіх.

БЛІЗНЯТЫ змогуць добра падзарабіць, але для росту даходаў вам прыйдзецца як след пакруціцца. Не спяшайцеся траціць атрыманае, а пакладзіце грошы ў банк — і добрая прыбаўка да сумы будзе забяспечана. Зоркі абяцаюць нечаканую сустрэчу, нараджэнне рамантычнага пачуцця, якое зведаюць прадстаўніцы цудоўнай палавіны, якія нарадзіліся пад гэтым знакам.

РАКУ трэба абраць новую стратэгію ў сваёй дзейнасці. Без яе не будзе поспеху, а ён, між тым, цалкам верагодны. Вам давядзецца больш працаваць, але і атрымаеце вы таксама больш, чым раней. Праўда, прыйдзецца грунтоўна паклапаціцца пра сям'ю. Але ўсе намаганні акупяцца ў сто разоў. Вы адчуеце сябе больш упэўнена, а сваё становішча ацэніце як стабільнае.

У ЛЬВОЎ наступіць відавочны прагрэс у дзелавой дзейнасці. Прымайце любыя прапановы ад партнёраў па бізнесу і смела пашырайце свае планы, здзяйсняйце задуманае. Асаблівы поспех выпадзе тым, хто заняты ў сферы гандлю. А старым і пабачыўшым жыццё давядзецца пайсці на ганаровы адпачынак і цалкам прысвяціць сябе клопатам пра дом і ўласнае здароўе.

Астролаг раіць ДЗЕВЕ не раскідвацца, а сканцэнтраваць намаганні на адной канкрэтнай справе. У наступныя дні пастарайцеся знайсці час для пошуку новых партнёраў, але не ўсім давярайце цалкам. Магчымы разрыў з тымі, з кім разам прапрацавалі доўгія гады. Не ўсё пойдзе як па масле ў вас дома, але ў рэшце рэшт мір будзе аднаўлены.

Фінансавыя поспехі дазволяць ШАЛЯМ адкрыць новую справу. Чакаюцца верагодныя дзелавыя прапановы ад сталых партнёраў. Згаджайцеся, і выдатныя вынікі не прымусяць сябе чакаць. Як снег на галаву, нечакана з'явіцца той, з кім вас звязвала ў мінулым рамантычная прыгода, і вам трэба будзе рыхтавацца да новай.

СКАРПІЁНУ давядзецца шмат працаваць без якой-небудзь надзеі на дадатковыя даброты. І наогул вам выпадзе тыдзень не з лепшых. Прыслухайцеся да парад старэйшых і пазбягайце складанасцей з хатнімі. Няхай вам будзе суцяшэннем уласнае выдатнае здароўе, якое застанецца багатырскім насуперак усім стрэсам і непрыемнасцям.

СТРАЛЬЦАМ давядзецца пачаць новую справу. Наперадзе ў вас і добрыя прапановы, і поспех у працы. Спраўдзіцца мара стаць членам прэстыжнага спартыўнага клуба, адправіцца ў замежнае турнэ і добра адпачыць. Сям'я на вас не нарадуецца, а ў адказ атрымае вашы ўвагу і клопат.

# АГЕНЬЧЫК ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ

ГАРАДЖАНІНУ гэта зразумець цяжка. А для тых, хто пайшоў у жыццё з-пад вясковых стрэх, словазлучэнне «пачатковая школа» азначае вельмі многае. Гэта не проста першыя тры, а цяпер чатыры класы агульнаадукацыйнай школы. Гэта, як правіла, сама школа, што размяшчалася ў роднай вёсцы, найчасцей у прыстасаваным памяшканні ці проста ў вясковай хаце. Гэта першы настаўнік — першы сярод адукаваных людзей, якіх сустрэў у жыцці, на вёсцы чалавек паважаны і прыметны. Менавіта пачатковая школа найбольш прасунута ў глыбінку, у аддаленыя вёскі, з яе пачынаецца народная асвета. Нягледзячы на ўсюдыпранікальнае тэлебачанне, іншыя сучасныя сродкі зносінаў і інфармацыі, пачатковыя школы можна параўнаць з жывымі агеньчыкамі цывілізацыі, што свецяцца ў нашых вёсках. І калі зачыняецца нават пачатковая школа — бяднее вёска, цішэе на дзіцячыя галасы, яшчэ глыбей апускаецца ў шэрань будзённай працы, дзе толькі крама і можа прапанаваць зманлівыя паслугі.

Як жа сёння пачувае сябе пачатковая школа на вёсцы? Статыстыка сведчыць, што калі ў 1990 годзе ў Віцебскай вобласці налічвалася 206 пачатковых школ, то ў 95/96 навучальны год іх уступіла толькі 175. Яўнае скарачэнне. І гэта пры тым, што колькасць навучэнцаў у пачатковых школах за апошнія пяць гадоў узрасла. Такім чынам, тэндэнцыя акрэсленая: менее ў нашай глыбінцы пачатковых школ. І нават не толькі таму, што менш становіцца на вёсцы дзяцей. Эканамічны заняпад глыбока закрануў нашу адукацыю. Проста не хапае сродкаў, каб утрымліваць усе школы, каб захоўваць тую колькасць настаўнікаў, якая б адпавядала неабходнасці. Шмат гадоў існуе інструкцыя, што ў сельскай мясцовасці можна адчыняць клас, калі ў ім ёсць чатыры навучэнцы. А калі тры ці два? Віцебскі абласны Савет гадоў пяць таму ацаніў сітуацыю і вырашыў пайсці насустрач найперш людзям, вяскоўцам. Было дазволена адчыняць клас пры наяўнасці трох навучэнцаў. Гэта была адна вобласць у рэспубліцы, ды, відаць, і ў тагачасным СССР, дзе інструкцыю падправілі з мэтай аблегчыць бацькам праблемы з уладкаваннем дзяцей у школы. І вось напярэдадні цяперашняга навучальнага года да яе вярнуліся. Няма сродкаў на адкрыццё такіх малакамплектных класаў.

Зноў звярнуся да гараджаніна. Яму неяк і дзіўнавата, напэўна, чуць пра класы з трохчатырох навучэнцаў. Ён увогуле цьмяна сабе ўяўляе неабходнасць існавання такіх класаў. Але ж трэба ўлічыць, што гэта правінцыя, вёска. І хлапчаняці, якому ледзь споўнілася шэсць-сем гадоў, даводзіцца дабірацца да сваёй пачатковай школы некалькі кіламетраў. І ў дождж, і ў завею, і ў мароз. А калі надвор'е зусім небяспечнае для малога, яго проста пакідаюць дома. Прама скажам, не спрыяе гэта ўзроўню яго ведаў. Калі ж зачыняецца адна пачатковая школа, то дзеці, якія яе наведвалі, вымушаны павялічваць штодзённыя свае праходкі да той, якая яшчэ ацалела. Пры ранейшай сетцы аўтобусных маршрутаў з гэтым яшчэ неяк можна было мірыцца. Але сёння аўтобус у глыбінцы амаль такая ж рэдкасць, як і заезджыя артысты. Так што разлічваюць школьнікі і іх бацькі альбо на свой асабісты транспарт, альбо на ўласныя ногі. Дайшло да таго, што ў некаторых гаспадарках вобласці бацькі даплачваюць за транспарт, які прадастаўляе калгас альбо саўгас для перавозкі дзетак да школы і ад школы, хаця пастановы Вярхоўнага Савета аб забеспячэнні гаспадаркамі бясплатнай падвозкі школьнікаў ніхто не адмяняў. Але як быць, калі ў калгасе праблемай становіцца забеспячэнне палівам нават пасяўной?

Вёска Норыца, што ў Пастаўскім раёне, доўгі час была ў заняпадзе. Да цэнтральнай сядзібы гаспадаркі няблізка, мясцовы спіртзавод, што належаў саўгасу, у гады барацьбы з п'янствам зачынілі. Сёння ён зноў выпускае прадукцыю, пабудавана нават рэктыфікацыйная вежа. Так што нейкая будучыня ёсць. Ёсць рабочыя месцы. Таму ў бліжэйшыя гады будзе папаўненне і ў мясцовай пачатковай школе. Пакуль што ў ёй па спісу дзевяць навучэнцаў. Адсутнічае другі клас, а таму, па інструкцыі, у школе працуе толькі адна настаўніца, яна ж і дырэктар. Працуе яшчэ адна жанчына, якая тут і за тэхнічку, і за апальшчыцу, і за повара — чай дзецям згатаваць, астатняе яны бяруць з дому. Хто што мае, што каму дадуць.

У той дзень мне давялося сустрэцца з настаўніцай Л. Зелянкевіч. У яе захварэла дзіця, трэба было прымаць тэрміновыя меры, везці да ўрача. І школьнікі займаліся самастойна нейкі час, усе тры класы. Сем хлопчыкаў і дзяўчынак — два вучні адсутнічалі з-за хваробы.

Напэўна, няшмат карысці было ад такой «самастойнасці», але іншага выйсця няма. Настаўніца таксама чалавек, яна можа захварэць, у яе могуць з'явіцца такія абставіны, якія вымусяць адарвацца на нейкі час ад школы. І дзеткі застануцца адны. Інструкцыя. Грошы. Не стасуецца гэта ўсё ж з самым высакародным, што ёсць у свеце — навучаннем дзяцей.

Сам жа будынак Норыцкай пачатковай школы неблагі, прасторны для такой колькасці навучэнцаў. Ды і будаваўся ён з разлікам на большае. У другой палове дома — кватэра для настаўнікаў. Зіму перажылі без асаблівых цяжкасцей, ацяпляліся торфабрыкетам, яго хапала. Хапала ў памяшканні месца, каб нават зімою арганізаваць для дзяцей гульні, заняткі фізічнай культурай. У школе дзеці з Норыцы і з Пераслегі, якая за тры кіламетры. Дабіраюцца дзеткі на заняткі, зразумела ж, пешшу. А як заканчваюць пачатковую школу — далейшы іх шлях у Валкоўскую базавую. А гэта ўжо за сем кіламетраў ад роднай вёскі. Такія цяпер адлегласці, такі час.

Але прыведзены вышэй прыклад можна аднесці да разраду выключэнняў. У пачатковых школах вобласці ўсё-такі больш дзяцей, не адна настаўніца. Давялося мне неяк пабываць у Глыбоцкім раёне, у Старашарабаеўскай пачатковай школе. 28 хлопчыкаў і дзяўчынак займаюцца тут, чатыры настаўнікі. Адна з іх Часлава Фадзееўна Карней, яна ж і дырэктар (дарэчы, за дырэктарства атрымлівае аж 24 тысячы рублёў у месяц) расказвае:

— Нашай школе вось ужо 30 гадоў. І рэзерв для далейшага захавання камплектнасці класаў ёсць. Раней нават даводзілася займацца ў дзве змены. Цяпер праблема з памяшканнямі вырашана, бо школа арандуе былы дзіцячы садок. Зіму перажылі таксама даволі спакойна, ацяпляліся ў адным будынку печамі, якія своечасова зманціравалі, у другім — электрычнасцю. Гэта немалыя грошы, але раённыя ўлады дапамагаюць. Зразумела, сёння мы ўжо не можам разлічваць на тую падтрымку калгаса, якая была раней, а школа ў многім і рамантавалася, існавала за кошт калгаса. Але і ў гэтых умовах калгас на навагоднія падарункі, напрыклад, выдзеліў школе мільён рублёў. Гэта для нашай колькасці вучняў — грошы.

Ад сябе дадам, што школа ў Старых Шарабаях па-добраму ўразіла. Было адразу бачна, што навучальны працэс тут адладжаны, настаўнікі маюць добрую падрыхтоўку. Ды што казаць, у пачатковай школе ёсць і тэлевізар, і магнітафон, і на відэакамеру найбольш важныя мерапрыемствы здымаюцца. Працуюць тут лялечны і танцавальны гурткі, збіраецца свая краязнаўчая выстаўка, самі дзеці адшукваюць у бабуль і дзядуль старыя рэчы. З сёлетняга навучальнага года першакласнікі пачалі вывучаць англійскую мову. Спецыяльна прыязджае настаўніца з суседніх Карабоў. Бо потым у Карабоўскай школе будзе весціся паглыбленае вывучэнне гэтай мовы. Для гараджаніна ўсё гэта такое звычнае, а для вясковых школ — рэдкасць.

Увогуле ж пачатковыя школы зведваюць сёння немалыя цяжкасці. Справа ў тым, што знаходзяцца яны на балансе сельскіх Саветаў. І калі ў абласным, раённым бюджэтах няма грошай, то пра сельскія і гаварыць няма чаго. Адсюль вялікія цяжкасці з правядзеннем рамонтаў, набыццём самага неабходнага.

Яшчэ адна праблема — харчаванне школьнікаў. Калі гарадскі хлопчык ці дзяўчынка пасля ўрокаў за некалькі хвілін дабіраюцца дадому, дзе ў сям'і іх чакае паўнацэнны і гарачы абед (будзем спадзявацца, што ў большасці нашых дзетак гэта пакуль што ёсць), то вясковы вучань павінен на тое яшчэ не адну гадзіну патраціць. Нядаўна адбылася сесія Віцебскага абласнога Савета. Прынята рашэнне, што кампенсацыя школьнікам за абеды складзе ўжо не 400, а 1000 рублёў у дзень. З цяжкасцю знаходзіліся гэтыя грошы, але ж і яны сітуацыі не мяняюць. Дзеці большасці школ застаюцца без абедаў. Чай ніколі не зможа замяніць таго, што патрабуюць маладыя арганізмы. Наколькі ведаю, толькі рэдкія гаспадаркі вобласці могуць дазволіць сёння сабе такую «раскошу», як выдзяленне для школьных сталовых бясплатнага альбо таннага мяса, малака. Агародніну ў малых школах ужо навучыліся вырошчваць самі. Называлі мне як прыклад клопату аб дзецях і ў такі няпросты час калгасы «Буравеснік», «Прагрэс» з Шаркаўшчынскага раёна. Але гэта выключэнні. Агульны стан харчавання дзяцей у школе бядотны.

Не маю права не сказаць у гэтым артыкуле і аб аплаце працы настаўнікаў. І ў Глыбоцкім, і ў Шаркаўшчынскім раёнах, як паўсюль у Віцебскай вобласці, дзяржава даўно і нашмат завінавацілася перад настаўнікамі, іншымі работнікамі адукацыі. Павелічэнне ставак, пераразлік заработнай платы шмат дзе застаецца толькі на паперы, сама заработная плата за апошнія месяцы не выплачана. Самі настаўнікі жартуюць: «Бач ты, якое мы жывучае племя. Без грошай, але не паміраем, нават на ўрокі прыходзім яшчэ прыстойна апранутыя».

А па сутнасці — горка. Без будучыні сябе пакідаем.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*Віцебская вобласць.*

***ФОТАРЭПАРТАЖ***

# АГУРКІ НЕЗЯМНОГА ПАХОДЖАННЯ...

## На беларускія палеткі прыходзяць галандскія тэхналогіі

МАГЧЫМА, тыя агуркі, якія здымаюць цяпер у калгасе імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна, у яго цяплічным камбінаце, нехта назаве экзатычнымі, ненатуральнымі. І хоць кожны агурок на выгляд ну самы звычайны цяплічны агурок, — падставы для таго, каб аднесці гэты арджанікідзеўскі прадукт да незвычайных, сапраўды, ёсць. Агуркі, якія здымаюць цяпер у калгасе імя Арджанікідзе, літаральна кажучы, — незямнога паходжання. Менавіта так. Гэткая дэталь: магутныя сцёблы раслін, усыпаныя завяззю і ўжо гатовым да спажывання прадуктам, — растуць не з зямлі, не з глебы, за якія чапляецца ўвесь раслінны свет, у тым ліку і яго цяплічныя асобіны, а з... мінеральнай ваты. Зрэшты, мінеральная вата тут нават ні пры чым. Як заўважыў начальнік цяплічнага камбіната Аляксандр Ермаловіч, гэта інертны матэрыял, які нічога не выдзяляе, нічога не паглынае...



Тэхналогія, якую пачалі прымяняць у цяплічным камбінаце калгаса сёлета, адпаведна, папярэдне правёўшы яго рэканструкцыю, — наступная. Расаду раслін змяшчаюць у так званыя палеты з мінеральнай ваты, якая, як зазначана ўжо, уяўляе сабой інертны матэрыял, г. зн. непасрэдна да самога «хларафільнага» працэсу ніякіх дачыненняў не мае і толькі служыць свайго роду пунктам апоры для раслін. Ды яшчэ губкай, з дапамогай якой яны сілкуюцца... Да кожнага каліва падведзена кропельніца, кропельніцы аб'яднаны ў адну сістэму з агульным растворным вузлом. І, можна сказаць, на чале ўсёй гэтай сістэмы — камп'ютэр з закладзенай ў яго «агароднінай» праграмай. Адпаведна, камп'ютэр забяспечвае ўсе працэсы, сочыць за ўсімі рэжымамі, дапускаючы толькі найбольш спрыяльныя для раслін; да апошніх праз кропельніцы паступаюць пажыўныя рэчывы, вада. Прычым, як заўважыў, Аляксандр Ермаловіч, пажыўныя рэчывы падаюцца да раслін у найбольш збалансаваным выглядзе, чаго немагчыма дабіцца пры звычайным вырошчванні, у глебе... Карацей, агуркам не застаецца нічога іншага, як толькі упэўнена расці...

Што, увогуле, яны і робяць. І не толькі яны — у калгасным цяплічным камбінаце сёлета па гэткай жа тэхналогіі вырошчваюць і памідоры. У параўнанні са звычайнай цяплічнай тэхналогіяй працэс росту прыкладна на 3 тыдні паскараецца; у звычайнай цяпліцы агуркоў і памідораў здымаюць з квадратнага метра за сезон адпаведна каля 15—20 і 9—15 кілаграмаў, з раслін жа, вырашчаных новым спосабам, мяркуюць зняць па 25—35 кілаграмаў.

Новая галандская тэхналогія (а менавіта ў заўзятых гароднікаў-галандцаў пераняў яе калгас) ужо сама па сабе прагрэсіўная. Аднак не толькі імкненне да прагрэсу рухала ў першую чаргу кіраўніком гаспадаркі Уладзімірам Лысым, які даўно прымерваўся да гэтай тэхналогіі, — да новага схілялі жорсткія рэаліі самога жыцця. Ужо вядома: цяплічнае вырошчванне агародніны па звычайнай тэхналогіі ў апошнія гады стала крайне нявыгадным. Добра вядома і прычына гэтага — цяпліцы спажываюць шмат цяпла, а апошняе надзвычай дарагое. Напрыклад, як расказалі ў гаспадарцы, тут раней кожны год цяплічную глебу перад пасадкай расады на працягу 12 гадзін прапарвалі на пэўную глыбіню (так належыць). Пры гэтым для прапаркі аднаго гектара трэба было спаліць газу на 140 мільёнаў рублёў, а ў калгасе 8 га цяплічных плошчаў. Акрамя таго, нямала цяпла ішло на падтрыманне тэмпературнага рэжыму глебы. Як ні дзіўна, звычайная, грунтавая тэхналогія патрабавала і значна больш ручной працы... Па сведчанню А. Ермаловіча, летась цяплічныя агуркі ды памідоры прынеслі калгасу не прыбытак, а каля 3 мільярдаў рублёў стратаў. Карацей, пры падобным становішчы цяплічную гаспадарку можна было б закідваць... Каб не галандцы...

Што цяпер? Ніякага грунту, які ўвогуле выключаны з тэхпрацэсу, а значыць, і ніякіх прапарак (цяпло патрабуецца толькі на падтрыманне неабходнага рэжыму паветра), зменшыліся і іншыя выдаткі (дарэчы, цяперашніх цяплічнікаў гаспадаркі назваць земляробамі можна хіба што з нейкай доляй нацяжкі)... У цэлым новая тэхналогія абяцае зменшыць сабекошт агароднінай прадукцыі прыкладна напалову.

Аднак чытача, няйначай, з самага пачатку цікавіць не столькі тэхналогія, колькі пытанне: а ці вартая такая прадукцыя, так сказаць, гастранамічнай увагі?.. Маўляў, хімія, нітраты...

Агароднікі ў калгасе імя Арджанікідзе — са стажам, яны сведчаць: агародніна, вырашчаная па ўказанай тэхналогіі найбольш экалагічна чыстая. Увогуле, раслінам падаюцца тыя ж неабходныя для іх рэчывы, якія яны атрымліваюць з зямлі. Прычым, як зазначалася ўжо, гэтыя рэчывы паступаюць ў найбольш збалансаваным выглядзе, г. зн. у самых аптымальных прапорцыях. Агароднікі з калгаса Арджанікідзе нагадваюць, што тых жа нітратаў можа быць праз меру ў агародніне, знятай з адкрытага грунту, нават калі ў



гэты грунт і ўносілі толькі адзін найбольш паважаемы дачнікамі гной. Каб нітратаў было менш, працэсам і трэба максімальна кіраваць... Між іншым, у нас з фотакарэспандэнтам таксама склалася пэўнае не кампетэнтнае, але гастранамічна абгрунтаванае меркаванне. Можам засведчыць: агуркі цалкам прыдатныя...

Спецыялісты гаспадаркі ўзялі ў галандцаў не толькі гэты вопыт — пэўныя напрацоўкі іх пераносяцца і на адкрыты грунт. У прыватнасці, тут закладзена вялікае поле морквы, якая будзе вырошчвацца менавіта па галандскай тэхналогіі, што абяцае добрую прыбаўку ва ўраджаі. Гаспадарка заключыла з галандцамі дагаворы на пастаўкі насення розных культур.

— У цэлым сяўбу заканчваем нармальна і разлічваем на неблагі ўраджай, — зазначыў У. Лысы. — Фінансавы план звёрсталі — таксама атрымліваецца нядрэнна. Хацелася б, аднак, каб хутчэй было вырашана пытанне з даўгамі за энерганосьбіты, якія з'явіліся з-за таго ж цяплічнага камбіната. Гэтыя даўгі хоць бы адтэрмінавалі...

Што ж, усякі прагрэс патрабуе і фінансавых заахвочванняў.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## *Васіль КАПІТАН:*

# «ГУБЛЯЮЧЫ МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ — ГУБЛЯЕМ БУДУЧЫНЮ»

**Ёсць паказчыкі статыстыкі, якія, апроч трывогі, нічога не выклікаюць. У першую чаргу гэта тычыцца злачыннасці, што ў апошнія гады нарастала шпаркімі тэмпамі. Не быў выключэннем з гэтага злавеснага рада і мінулы год. У параўнанні з папярэднім летась было ўчынена на 11.507 злачынстваў больш — рост на 9,6 працэнта. Найбольш уражвае ўсплёск цяжкіх відаў: забойстваў, рабаўніцтваў, згвалтаванняў, дзе колькасць іх павялічылася за год на 41,4 працэнта.**

**Трывожыць таксама і тое, што злачыннасць маладзее. Непаўналетнія становяцца зладзеямі, рабаўнікамі, гвалтаўнікамі, а то і забойцамі. Летась непаўналетнія ўчынілі 10.706 злачынстваў — на 670 больш, чым у папярэднім годзе. З улікам гэтых і многіх іншых абставінаў менавіта барацьбе са злачыннасцю сярод непаўналетніх і была прысвечана спецыяльная калегія Пракуратуры рэспублікі.**

**Пра тое, што робіцца сёння па ўтаймаванню злачыннасці, і ў першую чаргу сярод моладзі, гаварылася на сустрэчы з Генеральным пракурорам Васілём КАПІТАНАМ.**



— СЁННЯ, здаецца, ужо цяжка нечым здзівіць нашых грамадзян, асабліва работнікаў праваахоўных органаў, якія пастаянна сутыкаюцца з самымі нізкімі праявамі чалавечай натуры, — гаворыць Васіль Сцяпанавіч. — І ўсё ж, чытаючы зводку штодзённых правапарушэнняў, толькі дзіву даешся: дзе ж тая мяжа законапаслухмянасці, прыстойнасці? На слыху, мабыць, усёй рэспублікі нядаўняе паведамленне ў друку пра тое, як падлеткі з-за цацкі забілі свайго ж таварыша. Маладыя бамбізы пускаюць у ход кулакі па самых нязначных прычынах, а то і зусім без іх. Так, веснавым вечарам семнаццацігадовы жыхар горада Оршы Віталь Ананенка, будучы на добрым падпітку, пачаў чапляцца да рабочага льнокамбіната В. Белянкова, ударыў яго па твары кулаком. Пасля кінуўся наўцёкі. Гэта ўбачыў Генадзь Семянкоў, які паспрабаваў затрымаць хулігана. Але тут на дапамогу падбеглі яшчэ некалькі падлеткаў, якія збілі чалавека. У выніку той з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай трапіў у гарадскую бальніцу.

І падобных прыкладаў, на жаль, нямала. Як сведчыць аналіз дынамікі злачыннасці ў рэспубліцы за апошнія 5 гадоў, крымінагенная абстаноўка застаецца напружанай. Усплёск злачыннасці, які ўпершыню праявіўся ў 1989 годзе, у наступныя гады не толькі не зменшыўся, але нарастаў яшчэ больш высокімі тэмпамі. Для яго аказаліся характэрнымі дзве асноўныя прычыны: з аднаго боку — страта ў грамадстве маральна-прававых арыенціраў дасягнула той мяжы, за якой пачынаецца ўсёдазволенасць, з другога — тое, што ў крымінальным асяроддзі сфарміравалася пачуццё беспакаранасці, якое ў немалой ступені выклікана нізкай эфектыўнасцю дзейнасці ўсёй праваахоўнай сістэмы, і асабліва па прафілактыцы правапарушэнняў.

Сацыяльна-эканамічны крызіс, падзенне жыццёвага ўзроўню большасці насельніцтва, беспрацоўе, разбалансаванасць прававой сістэмы, масавае распаўсюджванне п'янства, рост наркаманіі, прастытуцыі і іншых амаральных з'яў, распад сям'і, рэарганізацыя агульнаадукацыйных і скарачэнне сеткі дашкольных устаноў, бескантрольнасць вольнага часу падлеткаў, крыміналізацыя розных слаёў грамадства самым непасрэдным чынам уплываюць на фарміраванне асобы непаўналетніх і актывізуюць правапарушэнні і злачыннасць сярод падлеткаў. Калі ў бліжэйшы час захаваецца ўздзеянне вышэйназваных негатыўных тэндэнцый, то праблема злачыннасці ў асяроддзі непаўналетніх можа ператварыцца ў нацыянальнае бедства. Мы павінны памятаць, што, губляючы маладое пакаленне — губляем будучыню. Дарэчы, праваахоўныя органы кантралююць сітуацыю і ўжо прынялі шэраг мераў па стабілізацыі крымінагеннай абстаноўкі. Сёлета за 4 месяцы на 10,3 працэнта зменшылася колькасць злачынстваў, менш стала цяжкіх відаў яе. Знізілася колькасць забойстваў, згвалтаванняў, рабаўніцтваў. На 3 працэнты менш учынена злачынстваў і непаўналетнімі.

**— У свой час наша школа была ўзорам выхавання і навучання моладзі. І колькі б крытычных стрэл ні выпускалася ў бок заарганізаванасці выхаваўчай работы ў школах, большасць настаўнікаў самаахвярна змагаліся за падрастаючае пакаленне, сеялі зерне разумнага, добрага, вечнага. А які цяпер уплыў школы на фарміраванне свядомасці юнакоў і дзяўчат, іх маральнае выхаванне?**

— Сапраўды, пытанне правамернае. Роля школы ў выхаванні моладзі вялікая. Аднак, на жаль, цяпер значна аслабла выхаваўчая роля адукацыі ўвогуле і ў адукацыйных установах — у прыватнасці. У выніку крызісных з'яў у грамадстве назіраецца згортванне комплекснай сістэмы выхавання і навучання ў бок толькі агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі.

У навучальных установах практычна не існуе ніякіх грамадскіх арганізацый непаўналетніх. Прыметна знізілася роля арганізаванага вольнага часу ў папярэджанні правапарушэнняў, у выніку чаго падлеткі бавяць час амаль бескантрольна. Адчуваецца востры недахват пазашкольных устаноў, падлеткавых клубаў, гурткоў мастацкай самадзейнасці і клубаў па інтарэсах. Так, у Мінскай вобласці на 206 стала меней такіх гурткоў, а колькасць падлеткаў, што займаюцца ў дзіцяча-юнацкіх спартыўных школах, зменшылася на 3278. Цяпер у гэтай вобласці ўсяго 37 пазашкольных устаноў, дзе займаюцца 16,8 працэнта ад агульнай колькасці падлеткаў. За чатыры папярэднія гады ў рэспубліцы закрыта каля 100 дашкольных устаноў. У шэрагу месцаў памяшканні падлеткавых клубаў выкарыстоўваюцца не па прызначэнню. Так, у Магілёве ў адным з пакояў клуба «Планета» выдаюцца чэкі «Маёмасць», а ў двух пакоях клуба «Факел» размясцілася рэлігійная місія «Табая». Калі раней важную ролю ў папярэджанні правапарушэнняў і злачынстваў мела арганізацыя вольнага часу дзяцей, асабліва ў летні час (піянерскія, спартыўныя, працоўныя лагеры і атрады), то цяпер яны або значна скарочаны, або зусім перасталі існаваць.

Апошнім часам, на жаль, падае аўтарытэт настаўнікаў у справе выхавання падрастаючага пакалення, а нярэдка педагогі самі становяцца злачынцамі. Так, метадыст Магілёўскага ўпраўлення адукацыі Бондараў арганізаваў на кватэры п'янку, дзе ў ходзе ўзнікшага канфлікту выстралам з ружжа параніў чалавека. Прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за згвалтаванне дырэктар Эсьманскай сярэдняй школы Бялыніцкага раёна А. Баранаў і настаўнік СШ № 18 г. Бабруйска В. Бажкоў.

**— Як вядома, адной з прычын росту дзіцячай злачыннасці з'яўляецца элементарнае гультайства ў іх асяроддзі. Якія захады прымаюцца ў рэспубліцы па працаўладкаванню падлеткаў?**

— У адпаведнасці з артыкулам 182 Кодэкса законаў аб працы прадпрыемствам і арганізацыям спецыяльна браніруюцца месцы для асоб, маладзей за 18 гадоў. Адмова ў прыёме на працу ў лік броні забараняецца. Аднак на практыцы гэтым правілам грэбуюць. Летась за 9 месяцаў у Мінскай вобласці было створана для падлеткаў толькі 12 рабочых месцаў. За гэты час было працаўладкавана 300 непаўналетніх з 934, якія звярнуліся з просьбай аб дапамозе ва ўладкаванні на працу. У той жа час з 3789 непаўналетніх, якія знаходзяцца на ўліку ў ІДН, не працуюць і не вучацца 612 падлеткаў. У цэнтрах занятасці Мінскай вобласці стаяць як беспрацоўныя 103 выпускнікі базавых школ, 1021 выпускнік сярэдніх школ і 1347 выпускнікоў прафтэхвучылішчаў. Летась у Савецкім раёне сталіцы ніводзін падлетак у перыяд летніх канікулаў не працаваў на прадпрыемстве. Адмовіліся браніраваць месцы для падлеткаў Мінскі камвольны камбінат, завод імя Кірава і шэраг іншых прадпрыемстваў. А беспрацоўе і незанятасць — адны з галоўных прычын росту дзіцячай злачыннасці.

**— Раней шмат гаварылася і пісалася аб прафілактычнай рабоце сярод моладзі. У якім стане яна зараз?**

— Стан злачыннасці сярод непаўналетніх у рэспубліцы сведчыць, што ў прафілактычнай рабоце, праводзімай ІДН, ёсць шмат недахопаў і ўпушчэнняў. Сур'ёзную заклапочанасць выклікае яе нізкая выніковасць сярод такіх найбольш крымінагенных груп непаўналетніх, як непрацуючыя і тыя, што нідзе не вучацца, асуджаныя ўмоўна, з адтэрміноўкай выканання прыгавору. У адносінах да гэтых падлеткаў, якія патрабуюць асаблівай увагі, многія супрацоўнікі ІДН не прымаюць эфектыўных папераджальных мераў, штучна змяншаюць колькасць падлеткаў, якія стаяць на ўліку, не садзейнічаюць іх працаўладкаванню, не кантралююць паводзіны. Аналіз работы з падлеткамі паказвае, што зводзіцца яна ў асноўным да павучальных гутарак без глыбокага вывучэння іх асобы, аказання ім рэальнай дапамогі. Не ва ўсіх выпадках за падлеткамі замацоўваюцца грамадскія выхавальнікі, накіроўваюцца паведамленні ў навучальныя ўстановы, працоўныя калектывы, ажыццяўляецца кантроль за іх разглядам. Да чаго гэта прыводзіць, добра бачна з такога факта. 12.04.95 г. Сяргей Міронаў быў асуджаны Кастрычніцкім судом г. Мінска па арт. 91-1 КК Рэспублікі Беларусь да 2 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору. Суд абавязаў падлетка ў месячны тэрмін уладкавацца на работу. Аднак на працягу 2 месяцаў ён не быў працаўладкаваны, ІДН і КДН не пракантралявалі выкананне прыгавору суда, дапамогі ў працаўладкаванні не аказалі. Як вынік гэтага, Міронаў 08.06.95 г. зноў учыніў злачынства, за якое арыштаваны.

У Валожынскім РАУС з 97 падлеткаў, што стаялі на ўліку, 62 не мелі грамадскіх выхавальнікаў, 8 нідзе не працавалі і не вучыліся, не накіраваны паведамленні ў адносінах да 48 падлеткаў і 64 бацькоў па месцы работы ці вучобы. Ва ўчотна-прафілактычных картках не было даных аб правядзенні на працягу 3—6 месяцаў прафілактычнай работы з непаўналетнімі і на працягу 5—8 месяцаў — з бацькамі.

У г. Пінску з 48 непаўналетніх праваапарушальнікаў на ўліку ў ІДН стаяла 28, ці 58,3 працэнта. Імі ўчынена 36 злачынстваў. Гэта яркае сведчанне «дзейснасці» праводзімай з падлеткамі прафілактычнай работы.

Непаўналетні Сяргей Шаблоўскі выхоўваўся ў няпоўнай сям'і з маці-п'яніцай. У апошнія гады жыў з бабуляй. Дрэнная абстаноўка ў сям'і спрыяла таму, што падлетак ухіляўся ад вучобы, у сувязі з чым з 22.04.91 г. быў пастаўлены на ўлік у ІДН Крупскага РАУС, а ў пачатку мая 1992 года ўчыніў крадзеж. У гэтым жа годзе быў пакінуты на паўторны курс навучання ў 8 класе Халопеніцкай СШ. Нягледзячы на гэтыя акалічнасці, падлетак быў 23.03.93 г. зняты з уліку быццам бы ў сувязі з выпраўленнем, хаця адмоўна характарызаваўся па месцы вучобы, а з мая 1993 года наогул перастаў наведваць заняткі, нідзе не працаваў, прыахвоціўся да спіртных напояў, а 23.05.95 г. учыніў рабаванне і забойства П. Мартынава.

Адна з прычын нізкай эфектыўнасці работы ІДН — пастаянная цякучасць кадраў. Большасць работнікаў не маюць адпаведнага вопыту, належнай практычнай падрыхтоўкі.

Не выконваюць у поўным аб'ёме сваіх задач па папярэджванню безнагляднасці і правапарушэнняў, уладкаванню дзяцей і аховы іх правоў, каардынацыі намаганняў дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый па гэтых пытаннях і камісіі па справах непаўналетніх. Асноўная частка іх супрацоўнікаў ухілілася ад кантролю за паводзінамі непаўналетніх правапарушальнікаў, ад іх працаўладкавання. Рэдка і павярхоўна праводзяцца праверкі ў навучальных установах, на прадпрыемствах, ва ўстановах.

У многіх выпадках прымаемыя камісіямі па справах непаўналетніх меры не спрыяюць спыненню ў далейшым правапарушэнняў з боку падлеткаў. Адсутнасць жа паслядоўнага кантролю за выкананнем уласных рашэнняў і непрыняцце дзейсных мераў па ліквідацыі прычын проціпраўных паводзінаў непаўналетніх, як правіла, цягне за сабой рост злачыннасці.

Не можа не ўплываць на прафілактыку злачыннасці сярод непаўналетніх і пазіцыі судоў як пры вынясенні прыгавораў, так і кантролі за іх выкананнем. Несвоечасовае накіроўванне копій прыгавораў, уступіўшых у законную сілу, дазваляе непаўналетнім доўгі час знаходзіцца па-за кантролем ІДН. А яны ў сваю чаргу не выконваюць ускладзеныя на іх прыгаворам суда абавязкі. Усё гэта зніжае прафілактычную значнасць прыгавору і з'яўляецца таксама адной з прычын учынення падлеткамі новых злачынстваў. Асуджаны ў верасні мінулага года Савецкім судом г. Мінска Сяргей Крэнь па артыкулах 87, ч.3, 89, ч.2, 201, ч.3 КК Рэспублікі Беларусь з адтэрміноўкай выканання прыгавору 02.10.95 г. зноў учыніў цяжкае злачынства.

Неабходна звярнуць увагу і на пазіцыі судоў, якія не выконваюць сваіх жа рашэнняў: прызнаючы неабходным выклікаць на судовае пасяджэнне прадстаўнікоў ІДН, КДН і бацькоў непаўналетніх падсудных, разглядаюць справы без вышэйназваных асоб, што ў далейшым не дазваляе ўстанавіць дзейсны кантроль за падлеткамі.

**— На слыху ў грамадскасці падзеі, якія мелі месца 26 красавіка ў сталіцы рэспублікі, дзе назіраліся сутычкі паміж дэманстрантамі і міліцыяй. Сярод тых, хто пераварочваў машыны, кідаў камяні ў міліцыянераў, было шмат моладзі, у тым ліку і непаўналетніх. Кажуць, што многія былі затрыманы, арыштаваны…**

— Тое несанкцыяніраванае шэсце сапраўды магло б выліцца ў бойку, калі б супрацоўнікі міліцыі не праявілі тады належнай вытрымкі і арганізаванасці. Адкуль у маладых людзей узяліся камяні, цэгла, металічныя пруты? Значыць, сур'ёзна рыхтаваліся да правакацый. За парушэнні грамадскага парадку ў той дзень было затрымана 186 чалавек, сярод іх былі студэнты і нават непаўналетнія. На сённяшні дзень матэрыялы за парушэнні грамадскага парадку ўжо разгледжаны судамі ў адносінах да 65 чалавек, 49 арыштавана на тэрмін да 15 сутак, частка аштрафаваны. Лічу, што актывістам падобных шэсцяў нялішне будзе напомніць, што існуе артыкул 167 Кодэкса аб адміністрацыйнай адказнасці, які прадугледжвае за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення вулічных шэсцяў ці дэманстрацый штраф да 5 мінімальных зарплат або арышт да 15 сутак. У сваю чаргу частка трэцяя артыкула 186 Крымінальнага кодэкса за арганізацыю, а роўна актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або звязаныя з яўным непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўніка ўлады, або пацягнуўшых парушэнне работы транспарту, дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, караецца тэрмінам да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пры правядзенні гэтага несанкцыяніраванага шэсця мелі месца шматлікія парушэнні закона і грамадскага парадку, пра што трэба было думаць у першую чаргу яго арганізатарам і актыўным удзельнікам. Але галоўная бяда не толькі ў тым, што яны самі парушылі закон, а ў тым, што ўцягнулі ў гэтую справу моладзь, непаўналетніх.

А калі б у некага, у тым ліку і ў работнікаў праваахоўных органаў, здалі нервы, калі б яны прымянілі зброю ў адказ на град камянёў, што ляцеў у іх, хто б тады адказваў за марна пралітую кроў? Да таго ж ад простага хуліганства да злачынства — адзін крок.

Цяпер у папраўча-працоўных калоніях адбываюць пакаранне 1620 непаўналетніх. У прыёмнікі-размеркавальнікі для непаўналетніх штогод змяшчаецца больш як 2 тысячы падлеткаў. А колькі іх гіне! Дык няўжо нам мала гэтай жудаснай статыстыкі? Я звяртаюся да бацькоў гэтых, па сутнасці, падлеткаў, ці трэба ім, каб іх дзеці разбівалі галовы такім жа нашым дзецям з унутраных войскаў і міліцыі альбо падстаўлялі свае пад дубінкі ці кулі? Ці трэба ім, каб за парушэнні закона яны папаўнялі рады тых, хто ўжо знаходзіцца за кратамі? Думаю, што карысці ад гэтага нікому няма: ні дзяржаве, ні грамадству, ні ўсім нам. Як генеральны пракурор павінен заявіць, што да арганізатараў і актыўных удзельнікаў, якія парушылі грамадскі парадак 26 красавіка 1996 года, будуць прыменены ўсе прадугледжаныя законам меры. Пракуратурай г. Мінска ўзбуджана крымінальная справа і праводзіцца дэталёвае расследаванне.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**

Віктар КАРАМАЗАЎ:

# «ПЕРАДЗВІЖНІКІ З БЕЛАРУСАЎ ПАЧЫНАЛІСЯ І БЕЛАРУСАМІ ЗАКАНЧВАЛІСЯ»

***БЯЛЫНІЦКІ-БІРУЛЯ — вялікі мастацкі свет. Як да яго далучыцца? Як у гэты свет увайсці?***

***Шмат якія пытанні цікавяць нас напярэдадні Першага міжнароднага пленэра, прысвечанага выдатнаму жывапісцу з Магілёўшчыны, што адбудзецца ў маі-чэрвені на яго радзіме. Пісьменнік Віктар Карамазаў напісаў пра Бялыніцкага-Бірулю кнігу, аповесць-эсэ «Крыж на зямлі і поўня ў небе». На прэзентацыі кнігі ў Саюзе пісьменнікаў ён сказаў: «Кнігу пра нашага выдатнага жывапісца я пісаў з захапленнем. Гэта было захапленне ягонай Палітрай, ягоным Словам, ягоным Духам».***

***Прапануем гутарку нашага карэспандэнта з Віктарам КАРАМАЗАВЫМ.***

**— Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля вяртаецца на Беларусь... Ці можна гэтак сказаць сёння, напярэдадні міжнароднага пленэра?**

— Можна, калі мець на ўвазе не толькі пленэр. Сваё вяртанне на Беларусь сам Біруля пачаў яшчэ ў 1947 годзе, таксама вясною, у маі, калі разам з жонкай Аленай Аляксееўнай, з эцюднікам, фарбамі і пэндзлямі прыехаў у Мінск. Панамарэнка, які ў той час быў першым сакратаром ЦК партыі, пасяліў мастака ў Курасоўшчыне на Белай дачы, даў яму свой легкавік і повара. Штораніцы Вітольд Каятанавіч прачынаўся раней за ўсіх у доме, з першымі промнямі сонейка выходзіў у яблыневы сад і пісаў эцюды. Пасля снедання ён садзіўся ў машыну і ехаў далей ад Мінска, часта — на Слуцк. Якія тады былі пейзажы? Зямля ляжала закіданая абгарэлым жалеззем ад танкаў, машын, гарматаў, усюды яшчэ былі сляды жорсткіх баёў, і ўжо — цеплыня, зеляніна, квецень. Пра тое вяртанне на Беларусь Біруля пазней напіша: «Была думка: калі мне ўдасца паказаць на палатне адраджэнне роднай зямлі, паказаць выключную працавітасць майго народа, я буду шчаслівы».

**— І шчасце яго не абмінула?**

— Так. Жывучы на Белай дачы, Біруля шмат працаваў. Кожны дзень — новыя і новыя эцюды. І пошукі карціны глыбокага сэнсу адраджэння. А яму ішоў ужо восьмы дзесятак.

**— У Мінск ён прыязджаў, калі не памыляюся, і наступнай вясной?**

— На першы пасляваенны з'езд беларускіх мастакоў. Выйшаў на трыбуну і звярнуўся да творчай моладзі з думкамі пра нашы нацыянальныя традыцыі ў жывапісе. Біруля бачыў іх у рэалістычнай школе, падмурак якой залажылі Заранка, Селівановіч, Апалінар Гараўскі.

**— Гэта быў апошні прыезд Бірулі ў Беларусь?**

— У сорак дзевятым ён зноў збіраўся на радзіму, але ў яго здарылася вялікая бяда — загінула любімая дачка Люба. Біруля вельмі цяжка перажываў яе смерць, і праз некалькі месяцаў па дарозе ў майстэрню яго зваліў інсульт. Не ўстаючы з ложка, паралізаваны, ён просіць сяброў, каб адвезлі за чатырыста кіламетраў на дачу, дзе любімыя лес і возера, дзе магіла Любы. Жаданне неверагоднае. Але Біруля непахісны, і яго вязуць на дачу «Чайка». Дактароў там няма, але ёсць сяляне, якія яго любяць і даглядаюць. Праз адчыненае акно ён чуе галасы свайго лесу і саду, свежы вецер з возера. Біруля ўпэўнены, што толькі там, на прыродзе, ён можа зноў стаць на ногі, і не памыляецца. Параліч адступае, мастак устае з ложка і падыходзіць да мальберта. Сілы паступова вяртаюцца. Бог дае яму яшчэ аж восем гадоў жыцця. Для работы. Ён піша і піша любімую прыроду — ваколіцы «Чайкі». Але ў Беларусь вярнуцца ўжо не можа.

**— І тады да нас вяртаюцца яго карціны?**

— Як Мікольская царква на Ўдомлі адзвоніць па Бірулі абедню ў пяцьдзесят сёмым годзе, зноў жа, як і па яго Любачцы ў чэрвені. Алена Аляксееўна, выконваючы апошнюю волю мужа, перавязе ў Мінск дзесяткі яго карцін і эцюдаў, якія і дадуць магчымасць стварыць у Магілёве першы ў нас мемарыяльны музей аднаго мастака. Бірулевага дару хапіла, каб папоўніць выдатнымі карцінамі і Дзяржаўны музей выяўленчага мастацтва. Асобныя пейзажы былі перададзены музею Бялыніцкага-Бірулі ў Бялынічах.

**— Біруля ішоў да нас, на Беларусь, вяртаўся на радзіму, а мы — ішлі насустрач. Музеі — гэта і наша хада да яго. І наша да яго любоў. А ваша кніга «Крыж на зямлі і поўня ў небе» — хіба не працуе ў гэтым напрамку... Цікава, як вы ішлі да мастацкага вобраза Бірулі, як спасцігалі загадкі яго жыцця і творчасці?**

— Яшчэ нядаўна часопіс «Нёман» выходзіў з уклейкамі, дзе на добрай мелаванай паперы чытачам прапаноўваліся каляровыя рэпрадукцыі твораў беларускага жывапісу. Аднойчы тут задумалі змясціць рэпрадукцыі пейзажаў Бірулі. Папрасілі мяне напісаць да іх староначку тэксту. Па кнігах, альбомах, энцыклапедыях пачаў шукаць пра Бірулю звесткі. Яны былі вельмі скупыя. Пайшоў у дзяржаўны архіў. Там знайшоў некалькі старонак машынапісу — копіі з яго рукапісаў. Так я выйшаў на Бірулевы сцежкі, каб шукаць далей.

**— Сцежкі аказаліся, відаць, доўгія і некранутыя даследчыкамі?**

— Так. І вельмі цікавыя.

**— І куды яны вас павялі?**

— Перш за ўсё па Магілёўшчыне, з якой Біруля пачаўся.

Потым на Віцебшчыну, пад Бешанковічы. Там, на Дзвіне, Біруля хлапчуком бываў з маці ў маёнтку сваёй бабулі Чарноцкай — у Быстрэі, дзе жылі яшчэ і дзядзькі Іосіф і Уладзіслаў, удзельнік паўстання Кастуся Каліноўскага. Далей — возера Няшчэрда на Расоншчыне, мястэчка Краснаполле, дзе пазней жылі бацькі і куды малады Біруля, ужо вучань вучылішча жывапісу, скульптуры, і дойлідства, прыязджаў з Масквы на вакацыі. Далей — дарогі на Пскоўшчыну, да магілы Пушкіна (Біруля: «Сяджу на лавачцы і няма сілы пакінуць гэты белы слупок...»), у Цвярскую губерню на азёры Пясьво, Астравенскае, Кезадра, Удомля. Там — вёсачкі, па якіх Біруля з сябрамі жыў, вакол якіх паляваў і пісаў. Там рачулкі, азёры, узлескі, балотцы, цэркаўкі і каплічкі, хлеўчукі і старыя млыны, якія пісалі Біруля, Жукоўскі, Багданаў-Бельскі, Мараваў, вандруючы адной сябрынаю. На беразе Удомлі знайшоў Бірулеву дачу «Чайка» — закінутую людзьмі, прапахлую фарбамі, агнём камінаў, смолкім дрэвам і воскам свечак. У ёй дзён пяць жыў, вандруючы па наваколлі, увечары кладучыся спаць на падлозе ў Бірулевай майстэрні. А далей былі Клін і дамок Чайкоўскага, Ака і Таруса, запаведнік Паленава, Ясная Паляна і магіла Талстога — там Біруля таксама і жыў, і працаваў, і паляваў. Гэтак і вырастала кніга «Крыж на зямлі і поўня ў небе», жанр якой вызначыўся не адразу, бо пісалася нетрадыцыйна, як бы мной і Бірулем разам, у два галасы, якія паміж сабой і спрачаліся, і пагаджаліся, і адзін пад адзін падстройваліся дзеля ладу ў сюжэце і стылі. Нарэшце і жанр вызначыўся: «Эскізы, эцюды і споведзь Духу, альбо Аповесць-эсэ жыцця жывапісца і паляўнічага Бялыніцкага-Бірулі».

**— Дык можна сказаць, што кніга сталася яшчэ адным крокам Бірулі да нас, крокам яго вяртання на радзіму, і ў той жа час нашым і вашым крокам да Бірулі, яму насустрач?**

— Можна і гэтак сказаць. Асабліва калі мець на ўвазе, колькі ў гэтай кнізе самога Бірулі, яго думак і слоў, спавядання ў лістах, пра што мы раней усё ж не ведалі.

**— Але, каб гэта адбылося, саміх, дарагіх нам бірулевых прызнанняў, ды і шчырых, з любові і болю, лістоў Любы і Жукоўскага, дачкі і сябра, было б мала. Тут і вы самі як мастак павінны былі адчуць, уявіць, зразумець Бірулю, свайго літаратурнага героя, жывы вобраз і асобу. Ці не так? Дык усё ж якім вы адчулі і ўбачылі Бірулю-чалавека, Бірулю-мастака?**

— На пачатку, мабыць, адчуў і ў сваё адчуванне паверыў, што ён, асоба і мастак, адэкватныя ягонай палітры, святлу, каларыту, лірычнай танальнасці ягоных пейзажаў. І ў ім, чалавеку духоўным, і ў яго пейзажах жыццё непадманлівае, высакародна-чыстае, з багаццем усяго спектра святла і настрояў, па-звярынаму — у найлепшым сэнсе — чуйнае да ўсіх навакольных гукаў і пахаў. Як чалавек прыроды, я з цікавасцю паглыбляўся ў гэты свет, часам і забываючы, навошта мне ўсё гэта, задумваючыся: з чаго, з якіх нітачак чалавек, які мяне вёў, сатканы? І адказ на пытанне, які я знайшоў, быў такі: сатканы Біруля і яго духоўны свет з дыхання самой прыроды. Усё ў ім і вакол яго — прырода, сама прырода, якую д'ябал не паспеў разбурыць. Цікавіла мяне і тое, што пра яго думалі іншыя. І як было прыемна, калі думкі чыесьці і мае супадалі. І як было цікава ад думак чужых ісці да сваіх, чужымі, як кійком у дарозе, падпіраючыся. Вось бяру ў рукі зялёны сшытак. На вокладцы дзве літары: «Б. Б.» Яны азначаюць — Бялыніцкі-Біруля. Тут мае пра яго запісы. 17.XI.88. Акадэмія мастацтваў СССР — Масква. Крапоткінская. Выстава акварэляў Вярэйскага. Размова з П. М. Сысоевым, старым мастаком. Ён: «Бірулю я ведаў. Запрашаў мяне на дачу паляваць. Шкадую, што не змог з'ездзіць. Які ён быў? Спакойны, раскаваны, адкрыты, казаў тое, што думаў, сказаць сваё не баяўся, праўдзівы, але гэтых сваіх якасцей не падкрэсліваў, быў выхаваны, па-сапраўднаму інтэлігентны, далікатны, вёў сябе нязмушана, свабодна. У кожным яго слове і руху адчувалася ўпэўненасць чалавека бывалага, вопытнага, які шмат у жыцці пабачыў і шмат чаго ведаў. Не любіў балбатуноў. Але ворагаў не меў. З ворага ўмеў зрабіць сябра. Да ўсіх адносіўся шчыра і паважліва. Кожнаму быў гатовы пасобіць. Быў вельмі гасцінны».

**— Цікава, сяляне ў тых мясцінах, дзе вы бывалі, Бірулю яшчэ памятаюць, пра яго ведаюць?**

— Бывалі ў мяне і сустрэчы з сялянамі. Памятаю старога Кузьму з вёскі Стан, блізкай да «Чайкі». Сустрэў яго на дарозе за вёскаю, пазнаёміліся. Ён мне расказаў, як быў хлапчуком і паляваў разам з Бірулем. А якое ў хлапчука з Бірулем магло быць паляванне? За вёскай балота, вадзілася шмат качак, куды Біруля прыходзіў з сябрамі і сабакамі. А вясковыя хлапчукі як убачаць іх на балоце, дык адразу і бягуць. Мастакі страляюць толькі ўлёт, а хлапчукі стрымгалоў нясуць трафеі не заўсёды тым, хто падстрэліў, часцей — Бірулю. Сабакі нясуць у зубах, і хлапчукі — у зубах, бо рукі патрэбны, каб выплыць, выграбціся з балота. А ў Бірулі ў кішэнях заўсёды былі цукеркі для вясковых дзяцей.

**— А што ў Бірулі як у з'яве галоўнае?**

— Любая дэталь — дробязь толькі на першы погляд. І яна, дробязь, высвечвае глыбіню чалавека. Але ўсё ж ёсць сапраўды нешта больш ці менш істотнае. Для мяне ў Бірулі — таксама. Перш за ўсё, паўтаруся, мацярык Бірулі — жыццё ў прыродзе, сама прырода. Тут, на гэтым мацерыку, скрыжаваліся ўсе яго духоўныя, маральныя, філасофскія і побытавыя каардынаты. Паколькі прыродны пачатак у ім быў закладзены яшчэ ў маленстве, а маленства прайшло ў Беларусі на Дняпры, Сожы, Друці, Дзвіне, то і жыла ў Бірулі да самай смерці салодкая пакута па Беларусі.

**— Вы чыталі аповесць Паустоўскага пра Левітана? Гэтай гісторыі там няма, хоць Паустоўскі і напісаў пра мастака твор лірычны.**

— Ну, калі б Паустоўскі тую гісторыю ведаў, аповесць у яго атрымалася б іншай. Драма ў Горцы пад музыку Чайкоўскага, якую так любіў Левітан і якую там, у сасновым бары над возерам, яму кожны дзень ігралі на раялі Ганна Мікалаеўна і Юлечка, выдатна легла б пад пяро лірыка Паустоўскага. Але гэтую гісторыю напісаў Бялыніцкі-Біруля ў апавяданні «Апошнія кветкі Левітана». Апавяданне, хай сабе і недапрацаванае, ляжала ў архіве і мастацкі свет пра яго не здагадваўся.

**— Адзін Біруля ведаў тую гісторыю?**

— Нічога дзіўнага. Ён ішоў па слядах свайго настаўніка, сустрэў Юлечку Турчанінаву, і яна яму ўсё расказала.

**— А вы знайшлі рукапіс Бірулі? І выкарысталі ў сваёй аповесці?**

— Па-першае — у нашай з ім аповесці. Падругое — не ў сваім тэксце. Гэта, калі б у сваім, як мне падалося, было б нахабствам. Хоць гэта і звычайная ў літаратуры практыка.

**— Па вашай аповесці «Крыж на зямлі і поўня ў небе» пад такой самай назвай рэжысёр Валерый Басаў зняў поўнаметражны мастцкі фільм. Скажыце, фільм удаўся?**

— Фільм зняты не толькі па маёй аповесці, але і па майму сцэнарыю, таму мне цяжка сказаць, што ён дадае да таго вобраза мастака, які склаўся ў мяне. Але сродкі кіно, не ўласцівыя літаратуры, удалая апаратарская работа, стварэнне вобраза героя ў кантэксце прыроды, прыгожа знятых пейзажаў, перанесеных на кінаплёнку карцін і эцюдаў Бірулі, цудоўная музыка — усё гэта, безумоўна, узбагачае і сам вобраз Бірулі, і наша ўражанне ад яго мастацтва. Фільм ствараўся ў цяжкіх умовах, фінансаванне было вельмі беднае, і тое, што зрабілі рэжысёр і акцёры, трэба цаніць.

**— Вы заўважылі, што Біруля заўсёды збіраў вакол сябе беларусаў? Яны самі цягнуліся да яго?**

— З Беларусі быў Левітан — мастацкі кумір Бірулі. А самы блізкі сябар Станіслаў Жукоўскі — пушчанец з Пружаншчыны. Там, дзе жылі і пісалі Біруля і Жукоўскі, на Кезадры і Удомлі, бываў Заранка. Ён выхаваў Пярова, Макоўскага, Пранішнікава, Пукірава, Саўрасава — першую хвалю перадзвіжнікаў. А іх вучні Левітан, Паленаў, Сцяпанаў, вучылі Бірулю і Жукоўскага, якім было наканавана стаць апошнімі ў гэтай рэалістычнай славутай школе. І таму можна сказаць, што перадзвіжнікі з беларуса пачыналіся, ды беларусамі, хоць не аднымі імі, заканчваліся.

**— Міжнародны пленэр імя Бялыніцкага-Бірулі можа стаць падзеяй у нашым мастацтве?**

— Для гэтага ёсць усе падставы. Перш за ўсё — ёсць аўтарытэт Бірулі. І ў нас, сярод беларускіх мастакоў, і міжнародны. Трэба толькі, каб ён быў праведзены творча. Каб у ім прынялі ўдзел перш за ўсё цікавыя жывапісцы, майстры пейзажа, каб на ім сабралася пабольш таленавітай моладзі.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## СВЯТЛО МАСТАКА



У дні работы міжнароднага пленэра адбудзецца і такая падзея — у Магілёве, у двары філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — мастацкага музея В. К. Бялыніцкага-Бірулі — будзе адкрыты помнік вялікаму мастаку. Аўтар скульптурнага партрэта — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Лятун (вы бачыце яго на здымку побач са сваёй работай).

— Мой зварот да вобраза Вітольда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі — ажыццяўленне даўняй мары, — гаворыць Уладзімір Міхайлавіч. — Пейзаж і скульптура, велізарная прастора колераў і строгасць нашага матэрыялу, здавалася б, рэчы несумяшчальныя. Але, прызнаюся, мяне ўсё жыццё сілкавала святло мастака, багацце яго шчырай на навуку творчасці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ГОМЕЛЬСКІМ СТУДЭНТАМ — ФРАНЦУЗСКІЯ ДЫПЛОМЫ

**Неардынарная падзея адбылася гэтымі днямі ў Гомелі: дасягнута дамоўленасць аб тым, што студэнты французска-беларускага інстытута кіравання, які створаны ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны, стануць адначасова і студэнтамі Овернскага універсітэта Францыі з усімі адсюль вынікамі. Каб больш даходліва растлумачыць, што тут да чаго, варта вярнуцца да наступнага.**

Гомельскі дзяржаўны універсітэт супрацоўнічае з многімі навучальнымі ўстановамі Германіі, Італіі, Англіі, Кітая. Але найбольш цесныя сувязі ў яго ўстанавіліся з універсітэтам горада-пабраціма Клермон-Ферана з Францыі. З 1993 года рэктар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Леанід Шамяткоў і дырэктар інстытута «Інжынерыя менеджменту» універсітэта Клермон-Ферана прафесар Морыс Шэневуа распрацоўвалі праект адкрыцця франка-беларускага інстытута кіравання, які павінен дзейнічаць у Гомельскім дзяржуніверсітэце.

Гэты інстытут быў афіцыйна адкрыты летась на базе эканамічнага факультэта ГДУ, і студэнтамі яго сталі 28 беларускіх дзяўчат і юнакоў. Першыя два гады вучобы яны ўдасканальваюць свае веды па французскай мове і атрымліваюць агульнаадукацыйную падрыхтоўку з дапамогай як нашых вучоных і выкладчыкаў, так і французскіх. Два наступныя гады студэнты «грызуць» асновы спецыяльных дысцыплін па кіраванню вытворчасцю ўсіх формаў уласнасці як па нашых планах навучання, так і французскага універсітэта, для чаго прадугледжаны стажыроўкі студэнтаў у Францыі.

Апошні, пяты год навучання мяркуецца праводзіць у Клермон-Феране, і, пры ўмове паспяховага авалодання праграмай, студэнты атрымліваюць два дыпломы — аб заканчэнні вышэйшых навучальных устаноў Беларусі і Францыі.

Трэба таксама заўважыць, што ў асноўным усе расходы на навучальны працэс бяруць на сябе французы, якія прысылаюць сваіх студэнтаў на практыку ў Гомель (група іх і зараз знаходзіцца ў горадзе над Сожам).

— Наша супрацоўніцтва з калегамі з Францыі, — расказвае Леанід Шамяткоў, — такім чынам, выйшла на новы, больш высокі ўзровень і ў перспектыве дасць магчымасць знайсці выпускнікам добрую работу, бо яны будуць валодаць шырокімі ведамі.

А Морыс Шэневуа дадаў:

— Упэўнены ў тым, што дзякуючы гэтаму яны прынясуць грамадству больш карысці.

Спадзяёмся, што так яно і будзе. Застаецца толькі дапоўніць гэту заметку наступнай заўвагай: новаўвядзенне ГДУ пакуль што не мае аналагаў у краінах СНД.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## «Тэатр, ты быту забыццё...»

У канцы мінулага года адбыўся рэспубліканскі фестываль народнай творчасці ў Баранавічах, на радзіме аднаго з пачынальнікаў беларускага тэатра У. Галубка. Не прайшло і паўгода, як многія тэатральныя калектывы сустрэліся зноў, на гэты раз у Брэсце, на абласным свяце «Тэатральнае Палессе-96». Яго арганізатары — упраўленне культуры аблвыканкома і абласны навукова-метадычны цэнтр (дырэктар С. Гуляева).

Сярод спектакляў, папярэдне адабраных на конкурс, і нацыянальная класіка («Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Вясковыя прыгоды» Л. Радзевіча), і прачытанні сучасных аўтараў (В. Быкава, А. Дзялендзіка, У. Сауліча, Г. Каржанеўскай), і ўласныя кампазіцыі калектываў, і казкі Г.-Х. Андэрсана, Я. Шварца.

Былі калектывы слабейшыя і мацнейшыя, больш і менш «багатыя», што бачна па афармленню, з рознай мерай густу, але ў кожным з паказаных на фестывалі спектакляў было нешта сваё, адметнае. Прызамі і дыпломамі лаўрэатаў адзначаны тэатр-студыя з Пінска «Дыяген», за «Пінскую шляхту» — народныя тэатры Івацэвіцкага і Кобрынскага ДК, а таксама дзіцячы тэатр-студыя г. Брэста «Раёк». З прычыны матэрыяльнай нястачы не змаглі ўдзельнічаць у свяце тэатральныя калектывы сістэмы народнай адукацыі і прафсаюзаў. Але «Тэатральнае Палессе-96» яшчэ раз пацвердзіла, што таленты ў народзе не зваліся.

**Васіль СЦЯПАНАЎ.**

36,6

# Дыета, якой трэба прытрымлівацца пры каліце

**Дыета пры лячэнні такой цяжкай хваробы, як каліт,— першачарговая ўмова. Многія дактары-траўнікі заяўляюць, што нават лепшыя ў свеце лекі не прынясуць палёгкі, калі хворы не будзе прытрымлівацца дыетычных правілаў, бо грубыя харчовыя рэчывы, трапляючы ў тоўстую кішку, выклікаюць яе раздражненне. Успрымайце сур'ёзную хваробу па-сур'ёзнаму, прытрымлівайцся ўсіх правілаў дыеты, ужывайце настойкі з гаючых траў — і вы вызваліцеся ад гэтай жорсткай хваробы.**

### Ежа, якая павінна быць выключана з дыеты

У першую чаргу гэта вотруб'е: яно драпае і рэжа ўнутраную абалонку тоўстай кішкі. Не ешце таксама вельмі гарачай і вельмі халоднай ежы. Пазбягайце халодных і гарачых напояў. Не піце празмерна вадкасці, у тым ліку і вады. Трымайцеся далей ад цяжказасваяльных сартоў мяса, такіх, як свініна, ялавічына. Старайцеся не ўжываць у ежу сырой агародніны, у тым ліку і салаты, бо цэлюлоза, якая ўваходзіць у іх састаў, таксама раздражняе тоўстую кішку. Пастарайцеся як найменш піць садавінных сокаў, ешце садавіну ў яе цэльным выглядзе, прычым ачышчайце яблыкі і грушы ад скуркі.

Пазбягайце ежы са спецыямі і прыправамі, выключыце з рацыёну смажаную ежу, не ешце свежага хлеба, пазбягайце кавы.

### Чым трэба харчавацца

Можна есці ўсе збожжавыя, за выключэннем вотруб'я і вотруб'евых збожжавых. Ешце курынае мяса і маладую бараніну. У гэтым выпадку для харчавання таксама вельмі карысная ўся вараная агародніна, прыпушчаная над парай ці прыгатаваная на агні: чарнасліў, яблыкі, грушы, слівы — пры ўмове, што гэтая садавіна зварана ці спечана. Торт з садавінай без насення і без спецый, жэле і жэлацін, йогурт, малако, пудынгі. Чыстыя і густыя супы нармальнай тэмпературы. Хлеб павінен быць не свежы, а чэрствы, паўчэрствы, з мінімальнай колькасцю масла. Тлушчы можна ўжываць, але ў вельмі мінімальнай колькасці. Каровіна, казінае малако можна піць памятаючы, што ўжыванне вадкасці не павінна быць празмерным.

Шклянку вады, не зусім халоднай, трэба выпіваць перад снеданнем, і яшчэ па шклянцы паміж снеданнем і лячэннем. Калі хворы дакладна і няўхільна будзе захоўваць дыету, прымаць лякарства, то выздараўленне наступіць поўнае. Памятайце таксама, што ранні дыягназ абароніць вас ад празмерных пакут і боляў.

**Памятайце, што пры лячэнні каліту ёсць вельмі важнае «НЕ»:**

— Не ўжывайце слабіцельных. Памятайце, што яны, наадварот, могуць прывесці да гэтай хваробы. Вельмі добра прыбаўляць да 0,5 літра вады ст. лыжку вадкага экстракту.

***(Паводле «Зборніка па народнай медыцыне» Г. Мінеджана.)***

## Малюе Леанід РАЗЛАДАЎ










## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 7. Самы нізкі па гучанню духавы музычны інструмент. 8. Скарочанае абазначэнне складу хімічнага злучэння. 9. Асобнае жылое памяшканне ў гасцініцы. 11. У старажытнай Грэцыі — кіраўнік жрацоў у храме. 12. Сузор'е паўночнага паўшар'я. 13. У праваслаўнай царкве — вялікая харавая кампазіцыя. 15. Дакладна вызначаная расцэнка тавараў ці аплаты паслуг. 17. Прадмет сляпога пакланення. 18. Знак фірмы на вырабах, таварах. 19. Прылада для лоўлі жывёл. 21. Род пасцілы. 23. Чарцёж, які зроблены ад рукі пры тапаграфічных работах. 24. У старажытным Рыме — пасол, які выконваў палітычныя даручэнні. 28. Узбраенне, маёмасць ворага, якія захоплены ў час баявых дзеянняў. 29. Рымская багіня кахання і прыгажосці. 30. Завяршэнне, канец справы. 32. Састаўная частка рэчыва, злучэння. 33. Горад у Іспаніі, знішчаны ў час варварскай бамбардзіроўкі ў 1932 годзе.

**Па вертыкалях:** 1. У мастацтве — твор, які з'яўляецца нарматыўным узорам. 2. Баваўняная тканіна для мужчынскіх кашуль. 3. У грэчаскіх міфах: гара, на якой жылі музы і Апалон. 4. У Візантыйскай імперыі — намеснік імператара ў якой-небудзь вобласці. 5. Арнаментальная аздоба ў выглядзе вайсковых даспехаў. 6. Адна з асноўных частак прыроды ў старажытнарымскай філасофіі. 10. Грашовая адзінка Фінляндыі. 14. Баец гарматнага, кулямётнага разліку. 15. Парода паляўнічых сабак. 16. Контур прадмета. 17. Заключная частка спартыўнага спаборніцтва. 20. Гуцульскі народны мужчынскі танец. 22. Усякае вызначэнне, якое выказана ў сціслай форме. 25. Карціна П. Пікасо. 26. У міфалогіі — сын Зеўса і Данаі, які перамог гаргону Медузу. 27. Планета Сонечнай сістэмы. 30. У першабытных плямёнаў: рэч, якая мае звышнатуральную сілу. 31. Упаўнаважаны папы Рымскага.

**Склаў Уладзімір ШЫЛКІН.**

*г. Барань, Аршанскі раён.*

## КРЫПТАГРАМА-ЗАГАДКА

Перакладзіце на беларускую мову наступныя ключавыя словы і падстаўце літары адпаведна значкам у клеткі крыптаграмы; у ёй аднолькавым літарам адпавядаюць аднолькавыя значкі.

1. Зеркальце. 2. Чаша весов. 3. Кувшин. 4. Меткий стрелок. 5. Басня.



Калі гэта будзе зроблена правільна, то вы прачытаеце загадку. Разгадайце яе.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**КРЫЖАВАНКА** *(4 мая).* **Па гарызанталях**: 5. Бабіт. 7. Сетка. 10. Цукар. 11. Крагі. 12. Тайм. 13. Сала. 14. Тамтам. 17. Волава. 18. Шакалад. 21. Радар. 22. Ганарар. 23. Катэт. 25. Каланат. 28. Партос. 31. Растан. 34. Муар. 35. Раут. 36. Лабіш. 37. Закот. 38. Хасан. 39. Каран. **Па вертыкалях**: 1. Макам. 2. Кірмаш. 3. Гексод. 4. Юкала. 5. Бутан. 6. Байт. 8. Трал. 9. Агава. 15. Маракас. 16. Падатак. 17. «Варатар». 19. Канал. 20. Ларэн. 24. Замах. 25. Коршак. 26. Тарзан. 27. Патон. 29. Рубаб. 30. «Таіс». 32. Саар. 33. Тукан.

Звяртае на сябе ўвагу вельмі складаная сетка красворда, якую выбрала яго аўтарка Вера Сінякова. У красвордзе няма ніводнай чорнай, свабоднай клеткі!

◆

Першымі адказы на заданні папярэдняга выпуску «Суботнім вечарам» даслалі Вадзім Усцінаў з Гродна, Людміла Рыбалтоўская з в. Петкавічы Баранавіцкага раёна, Іван Гармель з Брэста.



## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**11 мая 1541 года** нарадзіўся італьянскі архітэктар, прадстаўнік барока Бернардоні Джавані Марыя (памёр у 1605). У 1583 годзе буйнейшы магнат Вялікага княства Літоўскага князь М. Радзівіл Сіротка запрасіў яго ў Нясвіж для рэканструкцыі сваёй галоўнай рэзідэнцыі. Тут Бернардоні пачаў будаваць касцёл езуітаў, які стаў першым творам архітэктуры барока на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, удзельнічаў таксама ў стварэнні Нясвіжскага палаца — замкавага комплексу. У творчасці гэтага дойліда — вытокі архітэктуры беларускага барока, што расквітнела на нашай зямлі ў XVII—XVIII стагоддзях.

У гэты ж дзень **у 1864 годзе** нарадзілася Этэль Ліліян Войніч (памерла ў 1960), вядомая англійская пісьменніца. У 1887—89 гадах жыла ў Расіі, была звязана з польскім і расійскім рэвалюцыйным рухам. У раманах «Авадзень», «Авадзень у выгнанні», «Знімі абутак твой» стварыла вобраз італьянскага рэвалюцыянера.

**11 мая 1904 года** нарадзіўся Сальвадор Далі, іспанскі жывапісец, вядучы прадстаўнік сюррэалізма. Савецкія энцыклапедыі характарызавалі творчасць Далі як «прапаганду рэакцыйных уяўленняў аб бессэнсоўнасці быцця».

### Традыцыі

***11 мая ў славян імяніны Зяміны, багіні першай баразны.***

Ушаноўваючы яе, у разараную баразну клалі хлеб і лілі піва, кажучы: «Дарагая Зямля, ты даеш мне, я даю табе». У латышоў яна называлася Маці Земе (маці-Зямля), у літоўцаў — Жаміна, якая была жонкай вярхоўнага бога, грамавержца Перуна.

### Неверагоднае, загадкавае...

***«Гэтае пісьмо за мяне піша мая ўнучка, а я — дыктую. Я ніколі не вучыўся ў школе, чытаў па складах і распісвацца мяне навучыў мой дзед, — піша Ілья Сопін з сяла Завідава Маскоўскай вобласці, — пасля я пасвіў цялят і да сённяшняга дня працую жывёлаводам. У армію мяне не ўзялі, сказалі, што не годны і адправілі дамоў. Так і жыў у вёсцы.***

І вось аднойчы з жонкай па пуцёўцы паехалі на мора, дакладней — паляцелі на самалёце. Хочаце — верце, хочаце — не, але як толькі я ўбачыў, як узлятае самалёт, адразу зразумеў, чаму ён узлятае — па эфекту Магнуса. І пасля гэтага яшчэ ўспомніў, што ёсць закон сусветнага цягацення Ісака Ньютана, ёсць закон Ома для замкнутага ланцуга, два доказы тэарэмы Піфагора. «Успомніў» аквічную тэорыю Фалеса і эпітарныя канцэпцыі Спенсэра. Не ведаю, хто яны, але магу раскласці «па палачках» усе іх тэорыі. Я ведаю ўсё гэта, хоць у жыцці не прачытаў ніводнага падручніка і не чуў ніводнай размовы на гэтыя тэмы. Ведаю, а адкуль — не ведаю!..»

### А яшчэ быў выпадак...

***Адна з опергруп маскоўскай ДАІ выехала па выкліку. Жаданне спаць міліцыянеры разганялі па дарозе адчайнымі чартыханнямі і іншымі дрэннымі словамі.***

Адзін з членаў опергрупы быў чалавекам прымхлівым, ён і папярэдзіў таварышаў, што не трэба ў дванаццаць гадзін ночы брыдкасловіць — не да дабра гэта. Але яго словы толькі падахвоцілі астатніх, і моцныя славечкі так і пасыпаліся з усіх бакоў. «Калі нельга лаяцца апоўначы — хай нам будзе знак зверху»,— рэзюмаваў са смехам хтосьці з міліцыянераў.

Нарэшце прытармазілі каля патрэбнага дома, выйшлі з машыны і пайшлі па ўказаным адрасе. Раптам за спіной раздаўся моцны грукат. Азірнуліся: у машыны змятая крыша, а наверсе ляжыць вялізны лядзяш.

Але гэта быў толькі пачатак. З машынай з таго часу сталі твáрыцца неверагодныя і нават страшныя рэчы: то яе пратараньваў іншы аўтамабіль, добра памяўшы пры гэтым капот, то лопаліся колы, і «ўазік» на поўным ходзе выносіла на паласу сустрэчнага руху, то аднойчы, стоячы на чырвоным святле святлафора, аўтамабіль нечакана даў задні ход, ледзь не задавіўшы пешахода, які няправільна пераходзіў вуліцу. На шчасце, абыйшлося без ахвяр. Зараз «блюзнерская» машына стаіць на прыколе каля аддзялення міліцыі. Ніхто не рызыкуе на ёй ездзіць.

### Правер сябе

***Здавалася б, што можа расказаць пра чалавека яго асабісты подпіс?. Аказваецца, нямала. Вось што паказваюць назіранні псіхолагаў.***

Просты, немудрагелісты подпіс указвае на разважлівасць і смеласць. Подпіс з мудрагелістым росчыркам указвае на гарачнасць і нават недалёкасць яго ўладальніка. Павуцінападобны росчырк характарызуе лоўкасць у справах, замкнутасць, а ў выглядзе штопара — назіральнасць, хітрасць. Зігзагападобны подпіс характарызуе энергічнага чалавека. Адсутнасць росчырка — розум, назіральнасць, самастойнасць.

### Анекдот

*У гутарцы са знаёмым адзін урач сказаў:*

*— Я лячу людзей вось ужо трыццаць гадоў і за гэты час прыйшоў да высновы, што лепшае лякарства ад усіх хвароб — каханне.*

*— А калі яно не дапамагае?*

*— Трэба падвоіць дозу.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 2254.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12